30 сакавіка 2018 | № 11 (574)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА •ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144







**Хрыстос пакідае Еўропу?**

Стар. 8







# Лепшая чытанка ў Дзень дурня



Сяргей ПУЛЬША

**Красавік — цікавы месяц. Пачынаецца ён Днём дурня, адразу за ім адкрываецца чарговая сесія Палаты прадстаўнікоў. Зноў будзе шмат выходных, і надыдзе цікавая дата — палова чарговага тэрміна Аляксандра Рыгоравіча.**

Нядаўна журналісты падлічылі, што абяцанню беларускага кіраўніка пра заробак кожнаму «па пяцьсот» споўнілася 10 гадоў. А таму пад 1 красавіка самы час перачытаць апошнюю перадвыбарчую праграму «пераканаўча перамогшага» кандыдата ў прэзідэнты.

Перадвыбарчая праграма Аляксандра Рыгоравіча і сёння чытаецца як сапраўдная навуковая фантастыка. Прычым, савецкая фантастыка — утапічная, дзе ўсе жывуць у згодзе, без канфліктаў, леў побач з ягнём, і гэтак далей. На такія малюнкі заўсёды глядзіш з замілаваннем.

Вось, напрыклад, тэзісы: «Даць кожнаму чалавеку магчымасць зарабляць на годнае жыццё сваёй працай — гэты прынцып першапачаткова быў пакладзены ў падмурак беларускай эканамічнай мадэлі». І надалей нам абяцалася, што «занятасць — гэта стабільнасць грамадства і дабрабыт людзей, магчымасць кожнаму зарабіць сабе на годнае жыццё сваёй працай».

Прыгожа ж! Так. Пры гэтым ніхто не тлумачыў, што такое «годнае жыццё», і не распавядаў, колькі для гэтага трэба «зарабляць сваёй працай». А таксама не казалася, адкуль пры такіх мэтах у нас узяліся 400 тысяч дармаедаў і колькі ў нас насамрэч беспрацоўных.

Дарэчы, дзеля забеспячэння гэтага «годнага жыцця» нам абяцалі змагацца з інфляцыяй і ростам цэнаў. Наконт інфляцыі — не ведаю, але адным з метадаў барацьбы з ростам цэнаў называлася «рашучая барацьба з манапалізмам з мэтай забеспячэння сумленнай канкурэнцыі на рынку і зніжэння цэнаў».

Чуеце, прыватныя перавозчыкі? Рашучая барацьба з манапалізмам! Забеспячэнне сумленнай канкурэнцыі! Зніжэнне цэнаў! Барацьба з манапалізмам, «Белтэлекам», і зніжэнне коштаў, а не павышэнне іх!

Дарэчы, у гэтым жа раздзеле абяцалася скарачэнне знешняга дзяржаўнага доўгу. «Мы не павінны перакладаць нашы даўгі на будучыя пакаленні», — пафасна заклікаў Аляксандр Рыгоравіч. У выніку рэалізацыі гэтага пункта перадвыбарчай праграмы знешні доўг Беларусі ў 2017 годзе дасягнуў гістарычнага максімуму ў $16,6 мільярда, а ўвогуле дзярждоўг краіны зараз складае 38% ад ВУП з тэндэнцыяй да павелічэння ў 44,5% ад таго ж ВУП ужо ў гэтым годзе. Прычым, паводле падлікаў Мінфіна, крытычная стаўка дзярждоўгу — 45% ад ВУП.

**Перадвыбарчая праграма Лукашэнкі і сёння чытаецца як сапраўдная навуковая фантастыка**

Але каму цікавыя лічбы? Давайце яшчэ больш пра вясёлае. Напрыклад, пра развіццё дзелавой ініцыятывы. Так, Аляксандр Рыгоравіч нават адпаведны дэкрэт падпісаў — бачна, у выкананне сваіх абяцанняў. Але ў перадвыбарчай праграме таксама дэкларавалася «забарона на павышэнне старых і ўвядзенне новых падаткаў на працягу пяці гадоў. Любыя змены падаткаў — толькі ў бок змяншэння і спрашчэння».



Як добра! З 1 красавіка ў Беларусі ўзрастае базавая арэндная велічыня — да 16 рублёў 11 капеек. Ад гэтай велічыні разлічваюць стаўкі арэнды розных памяшканняў. Не падатак, канешне, але ўсё ж. З 1 студзеня ў Беларусі запрацаваў так званы «падатак на Гугл» — зараз ПДВ у памеры 20% абкладаюцца паслугі, якія аказваюцца беларускім фізічным асобам замежнымі кампаніямі. А ўлады задумаліся пра «падатак на пакеты» — бо поліэтылен цяжка перапрацоўваць, і ён шкодзіць навакольнаму асяроддзю. Вытворцы пакетаў ужо плацяць экалагічны падатак, зараз ім плануюць абкласці і карыстальнікаў тары, то бок грамадзян.

А памятаеце такі цікавы пункт перадвыбарчай праграмы, як «у будучай пяцігодцы наша медыцына па ўсіх параметрах стане ў адзін шэраг з медыцынай развітых дзяржаў»? І, адначасова дэкларавалася захаванне даступнасці якаснай медыцыны і адукацыі для кожнага грамадзяніна Беларусі?

Наконт кожнага — не ведаю, але новую «лечкамісію» для чыноўнікаў за 100 мільёнаў долараў пабудавалі. Што ж да даступнасці якаснай медыцыны — то яна, зразумела, даступная. За грошы, але даступная. Кажуць, некаторым грамадзянам у гэтым будынку ўжо зрабілі аперацыі. Бясплатна ці за грошы — пры гэтым не паведамляецца.

У тым жа раздзеле з клопатам пра людзей анансавалася «стварэнне сучаснай сістэмы даступнага іпатэчнага крэдытавання. У кожнай беларускай сям'і, што рэальна мае патрэбу ў новым жыллі, будзе магчымасць пабудаваць сабе дом або кватэру».

Прайшлі два з паловай гады. Наконт сістэмы іпатэчнага крэдытавання пакуль — маўчанне. Па-ранейшаму дзяржава нясе на сабе цяжар «падтрымкі маладых сем'яў» і іншых катэгорый грамадзян, якія маюць права на льготнае будаўніцтва.

Праўда, пра іпатэку размовы ходзяць яшчэ з тых часоў, калі Лукашэнка ўвогуле прэзідэнтам не быў. То бок, чвэрць стагоддзя. Ужо новае пакаленне «маючых патрэбу ў жытле» вырасла, а размовы ўсё яшчэ ходзяць...

Ну і любімы мой пункт — абяцанне запусціць у Беларусі ўжо ў гэтай пяцігодцы (палова з якой прайшла) сувязь па тэхналогіі 5G. Дзе «пяцёрачка»? Нідзе.

Так што лепшая гумарына на 1 красавіка — абяцанкі кіраўнікоў. Ці не так?

# Складала пратаколы на вяскоўцаў і сама плаціла штрафы

**Вольга Дадыкіна, старшыня Мушынскага сельскага выканкама, што ў Амсціслаўскім раёне, на пасадзе ўжо каля 10 гадоў. Пакуль што яна працягвае працу. Але нядаўна на жанчыну завялі крымінальную справу, ёй пагражае ад 3 да 10 гадоў зняволення.**

Дадыкіну вінавацяць у тым, што ў 2015 і 2016 гадах яна складала на вяскоўцаў адміністратыўныя пратаколы, якія пасля сама ж і аплачвала.

Як паведамляе Камітэт дзяржкантролю, Дадыкіна рабіла гэта, «каб стварыць бачнасць актыўнай працы па добраўпарадкаванні населеных пунктаў». Бо іначай яе саму маглі б прыцягнуць да адказнасці за бяздзейнасць.

Вольга Яўгеньеўна растлумачыла «Нашай Ніве» падрабязнасці абсурднай гісторыі:

— Усе пратаколы я складала за смецце, побытавыя адкіды, якія ляжаць на ўчастках, ля хат... 2015–2016 гады былі вельмі напружанымі. Прыязджалі шмат разоў санстанцыі, правяралі. З нас патрабавалі штотыдзень: што з пратаколамі, колькі за тыдзень? Прыходзілася складаць.

Кожны квартал мы давалі справаздачы ў Магілёў, колькі складзена адміністратыўных пратаколаў за побытавае смецце. Такі перыяд быў.

Але пратаколы складаліся не таемна. Прыязджалі санстанцыя і «экалогія», рабілі заўвагі. Пасля я складала пратакол і паведамляла чалавеку, што зрабіла, давала яму прадпісанне. Пасля прыязджалі і правяралі — прыбралі яны ці не. Часам прыходзілася нам самім нават прыбіраць!

Ды і сама я плаціла. «Экалогія» на мяне складала пратаколы за смецце. Я плаціла па 30 базавых. Але вяскоўцам я пісала мінімальныя сумы штрафаў — 0,1 базавую. Тады былі мізэрныя заробкі — і выпісваць па максімуму, ведаеце... Шкада было людзей. Плаціць ім усё роўна не было чым.

Гэта рабілася не для таго, каб кагосьці пакараць... Хаця пакараць, можа, і варта было. На тых, на каго складаліся пратаколы, было за што складаць. Гэта не тое, што вось, мне захацелася — і я склала...

Часам аплачвала штрафы сама. Бо калі штраф не аплачваны ў пэўны тэрмін, справа ідзе ў суд. Таму я і плаціла, каб на людзей у суд не падавалі.

Некаторыя вярнулі грошы пасля. Некаторыя — не.

**Паводле nn.by**

# Колькі ў Беларусі каштуе любоў да роднай мовы?

**Суды працягваюць разглядаць адміністрацыйныя справы ўдзельнікаў збору подпісаў у падтрымку беларускай мовы і адкрыццё нацыянальнага ўніверсітэта, які праходзіў у Мінску і некаторых гарадах 21 лютага і ў наступныя дні.**

Позву ў суд Савецкага раёна Мінска на 14 гадзін 29 сакавіка атрымала Аляксандра Патапава. Таксама ў гэтым жа судзе і ў гэты ж час прызначаны разгляд справы Вольгі Маёравай. Іх вінавацяць ва ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве па арт. 23.34 КаАП.




На момант здачы нумару было вядома, што штрафы за збор подпісаў у падтрымку беларускай мовы атрымалі Павел Пакаповіч (двойчы за 2 пікеты агулам 100 базавых), Наста Гусева (15 базавых), Ягор Сергіенка (50 базавых), Зміцер Дашкевіч (40 базавых), Дзяніс Мандзік (25 базавых), Ганна Смілевіч (15 базавых).

Пратаколы ў дачыненні да яшчэ двух зборшчыкаў подпісаў — Эдуарда Пальчыса і Рамана Ганчарова — суды адправілі на дапрацоўку.

Такім чынам, агульная сума штрафаў па стане на 28 сакавіка складае 245 базавых велічынь, альбо 2 500 еўра.

Нагадаем, збор подпісаў у падтрымку беларускай мовы распачаўся ў Мінску і некаторых гарадах Беларусі 21 лютага, у Міжнародны дзень роднай мовы. 27 лютага лідар «Маладога фронту» Зміцер Дашкевіч перадаў у Міністэрства адукацыі больш за 2 тысячы подпісаў.

**Паводле spring96.org**

# Фігуранты «Справы патрыётаў» судзяцца з Мінфінам

*Алесь КІРКЕВІЧ*

**У судзе Маскоўскага раёна Мінску пачаўся суд: чацвёра фігурантаў гучнай справы 2017 года патрабуюць кампенсацыі маральнай шкоды — па 100 000 рублёў кожнаму.**

Судовы пазоў быў скіраваны не да Следчага Камітэту і не да КДБ, але да Мінфіну. Чаму? Бо толькі гэтая інстанцыя можа задаволіць патрабаванні аб выплаце маральнай шкоды. Тым больш, усе папярэднія скаргі ў СК і КДБ на працягу ўсёй гісторыі са «Справай патрыётаў» ніякага плёну не прынеслі.

Судзіцца вырашылі далёка не ўсе, а толькі чатыры фігуранты: Віктар Данілаў, Андрэй Дундукоў, Сяргей Стрыбульскі і Віктар Мароз. Усе яны былі прысутныя на першым пасяджэнні.

Нагадаем, што фігуранты справы правялі ў сярэднім па тры месяцы за кратамі, у СІЗА КДБ ды МУС з канца сакавіка па канец чэрвеня 2017 года. Іх справу на хвалі пратэстнай вясны спачатку кваліфікавалі па арт. 293 (падрыхтоўка масавых беспарадкаў), пасля — па арт. 287 (узброеная арганізацыя). Потым абвінавачванне пачало развальвацца, фігурантаў выпусцілі, а саму справу спынілі 27 лістапада мінулага года.

Але што рабіць са шкодай здароўю, нервам, маёмасці і рэпутацыі фігурантаў? Напрыклад, у кватэры Віктара Данілава былі выламаныя дзверы, хоць ключы знаходзіліся у кішэні самога Данілава, затрыманага папярэдне. На момант штурму ў памяшканні знаходзіліся ягоная дзяўчына, маці ды старэнькая бабуля (апошняя моцна знервавалася і зусім нядаўна памерла).

Іншага фігуранта, Андрэя Дундукова, затрымлівалі на мяжы з Украінай 21 сакавіка 2017-га, разам з сям'ёй ён ехаў у адпачынак. Маленькі сын Дундукова, Міраслаў, пасля доўгі час баяўся выходзіць на двор, каб яго не «забралі»... У дадатак да ўсяго — гэта месяцы здзекаў, зламаныя кар'еры, так і не вернутыя рэчы, канфіскаваныя падчас вобшуку. З усім гэтым фігуранты справы скіраваліся ў суд.

Лінія абароны, то бок прадстаўніка Мінфіну, зводзіцца да таго, што прыцягваць да адказнасці трэба ўсё ж такі КДБ ды СК, а сам факт «незаконнасці дзеянняў» службоўцаў наогул нікім не даказаны... Яшчэ адказчык дадае, маўляў, суму кампенсацыі мае вызначаць суд, а не ісцец.

Гэта толькі першае пасяджэнне па справе, падчас якога суд выслухаў абодва бакі. Наступны раўнд мае адбыцца 3 красавіка а 14.30 у тым жа Маскоўскім судзе.

# Мінчанкі паказваюць кіно ў падтрымку жывёл

**«Менш жорсткасці, больш выгоды», — менавіта з такім падыходам Аляксандра Бутар і Ганна Круглова арганізоўваюць дабрачынныя кінапаказы, усе сабраныя грошы з якіх ідуць на дапамогу бяздомным жывёлам.**

Праект удзельнічаў у конкурсе «Social Weekend 11», але, нягледзячы на тое, што не прайшоў у чвэрцьфінал, не спыніцца і працягне працу.

Кожны год у Беларусі адлоўліваюць і забіваюць тысячы сабак. Пункты часовага ўтрымання ў гарадах увесь час перапоўненыя, у валанцёраў заўсёды аўрал, і часам, каб дапамагчы большай колькасці жывёл, папросту не хапае грошай. Падапечных трэба карміць, лячыць, часам даводзіцца дадаткова аплачваць паслугі ператрымкі.

У творчай майстэрні «Тэрыторыя кіно» рэжысёр і прадзюсар Аляксандра Бутар разам з харэографам Ганнай Кругловай вырашылі арганізаваць дабрачынныя кінапаказы, а атрыманыя грошы аддаваць на дабрачыннасць валанцёрам — абаронцам жывёл.

«Аня займаецца валанцёрствам у галіне зоаабароны, і ў яе, вядома, ёсць сябры, якія працуюць у той жа галіне. У мяне сабака, у яе мноства сабак, вось мы і пасябравалі «на глебе» гэтых сабак», — распавядае Аляксандра.

З часам у кінашколе назапасілася некалькі добрых дзіцячых работ, і іх вырашылі паказаць гледачам. На шчасце, задума апынулася вельмі паспяховай, і гледачоў было шмат. Заля першапачаткова была разлічаная на 30 чалавек, але для ўсіх жадаючых не хапіла нават дадатковых крэслаў — давялося рассаджваць людзей на падлозе.

Усе грошы, якія арганізатары атрымліваюць з кінапаказаў, яны размяркоўваюць паміж чатырма валанцёрскімі зоаабарончымі групамі. Першая «выручка» — амаль трыста рублёў — ужо выдаткаваная. На гэтыя грошы для жывёл набылі неабходныя рэчы, аплацілі аперацыю аднаму сабаку. Увогуле, усё працуе, як і задумана.

Ёсць і папярэдні план кінапаказаў. Арганізатары шмат у чым арыентуюцца на так званыя «адмысловыя даты» — Сусветны дзень сабак, Дзень абароны жывёл, Сусветны дзень хатніх жывёл і інш. Бліжэйшы дабрачынны кінапаказ запланаваны на першага красавіка. Важна, што кінашкола працягвае сваю асноўную працу, і гэта значыць, што са з'яўленнем новых фільмаў праграма будзе перыядычна абнаўляцца.

Але ініцыятыва не абмяжоўваецца толькі фільмамі. Нядаўна ў межах праекта выпусцілі калекцыю паштовак і каляндарыкаў з выявай сабак, якія цяпер знаходзяцца на ператрымцы, і якім валанцёры спрабуюць знайсці пастаянны дом. Па словах арганізатараў, дзеці з задавальненнем куплялі гэтыя сувеніры сабе і бацькам.

Галоўны персанаж праматэрыялаў — сабака Аляксандры па мянушцы Рона.

«Рона вельмі смешная, і мы абралі яе для лагатыпа і ў якасці «галоўнага героя», які будзе выяўляцца на сувенірах».

Акрамя каляндарыкаў і паштовак, дзяўчаты таксама зрабілі печыва ў выглядзе костачак.

«Атрымаўся такі пасыл, што гэта быццам Рона частуе ўсіх печывам. Дзеці з задавальненнем пілі гарбату з гэтымі «костачкамі», — атрымалася вельмі ўтульна і пазітыўна».

Праект у цэлым накіраваны на тое, каб гледачы адчувалі пазітыўныя эмоцыі і натхняліся станоўчымі прыкладамі. Арганізатары лічаць, што яны павінны менавіта натхняць людзей, так што не паказваюць і не распавядаюць гісторыі пра тое, як сабак нявечаць і забіваюць.

«Я працую з дзецьмі, і мне хацелася б паказваць ім станоўчыя прыклады. Мы паказваем гісторыі пра тое, як сабак ратуюць, як ім знаходзяць іншы дом. І ў групу нашага праекта я стараюся прыносіць натхняльныя гісторыі: як нехта выратаваў жывёлу, як нехта пабудаваў домік для бадзяжных катоў».

Арганізатары паказваюць фільмы, знятыя 5–10-гадовымі дзецьмі. Наогул, кінашкола працуе і з падлеткамі, але Аляксандра і Ганна вырашылі для гэтага праекта браць работы малодшых дзяцей з-за спецыфікі тэмы. Асноўная мэтавая аўдыторыя — такія ж дзеці і іх бацькі. Сувеніры, якія прадаюцца на кінапаказах, таксама арыентаваныя на дзяцей гэтага ўзросту.

Што тычыцца пашырэння праекта, то пра паказы ў іншых гарадах арганізатары пакуль не думаюць, але плануюць летам выйсці ў Мінску на адкрытую пляцоўку. Праўда, гэта будзе не кінапаказ, а дзіцячы лялечны спектакль.

Кінаэкран патрабуе цемры, а спектакль без праблем можна паказваць на вуліцы ў дзённы час. Плануецца, што на «вулічныя» паказы валанцёры будуць таксама прыводзіць жывёл, якія шукаюць новы дом.

**Паводле greenbelarus.info**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Амбіцыі не па сродках

Сяргей САЛАЎЁЎ


Фота www.gopsy.ru

**У нашай улады вельмі вялікія амбіцыі. Нават неразумна вялікія ў параўнанні з дзейсным станам рэчаў. У любой іншай сітуацыі ў такіх выпадках кажуць: «Закатаў бы губу!». Але нам трэба трымаць імідж краіны. І як бы нам з гэтым іміджам не надарвацца.**

«Бонусны» зімні месяц, у які ператварыўся сакавік, урэшце скончыўся. Дзяржава ў чарговы раз задумалася пра «бітву за ўраджай», якая пачынаецца з пасяўной. І гэтым разам, як падлічылі ва ўрадзе, пасяўная абыдзецца нам у гіганцкую суму — аж у мільярд (!) долараў.

Як паведаміў намеснік міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Уладзімір Гракун, «згодна з разлікамі правядзення веснавой пасяўной кампаніі, для яе паспяховага правядзення нам трэба 1,9 млрд рублёў. У тым ліку для выкупу гаруча-змазачных матэрыялаў трэба 347 млн рублёў, для набыцця мінеральных угнаенняў — 573 млн, на закупку сродкаў аховы раслін — 348 млн», — сказаў ён. На рамонт і абслугоўванне сельгастэхнікі з агульнай сумы выдзеляць 260 млн рублёў.

Дзе ўзяць такія грошы? Паводле Гаркуна, крыніцы ўжо вызначаныя. Гэта дзяржбюджэт, сродкі мясцовых бюджэтаў, ільготныя крэдыты банкаў, крэдыты банкаў, якія выдаюцца на агульных падставах арганізацыям-нарыхтоўшчыкам для авансавання вырошчвання прадукцыі раслінаводства, якая пастаўляецца для рэспубліканскіх дзяржаўных патрэб, крэдыты банкаў, якія выдаюцца арганізацыям АПК на агульных падставах, уласныя сродкі арганізацый.

Заўважым, што «ўласныя сродкі арганізацый», — то бок, фінансы саміх калгасаў, саўгасаў і СПК, — на апошнім месцы гэтага спісу. А між тым яны, па ідэі, камерцыйныя прадпрыемствы, якія ствараюць сельскагаспадарчую прадукцыю. Чаму за іх павінна плаціць уся краіна? І не толькі плаціць, але і потым набываць польскія яблыкі, егіпецкую бульбу і іспанскія гуркі з памідорамі?

Можа, ім увогуле грошай не даваць? Па-мойму, варта было б правесці такі эксперымент. Фермераў ніхто так не спансуе, а яны, між іншым, неяк жывуць, і нават прыбытак маюць. Вось мы і паглядзелі б адзін раз, чаго вартая беларуская сельская гаспадарка. І тады, можа быць, нарэшце вырашылі, што з ёй рабіць.

Тым больш, што грошай, насамрэч, у нас няма. На тыдні Белстат апрылюдніў дадзеныя пра яшчэ адну методыку падліку заробкаў.

Мы ўжо ведаем пра сярэдні заробак — «сярэднюю тэмпературу па бальніцы». Крыху разабраліся з медыяльным заробкам: заробак, які знаходзіцца ў цэнтры. Калі працей, то 50% работнікаў маюць заробкі ніжэй медыя, а іншым 50% — вышэй за яе. Зараз Белстат лічыць мадальны заробак.

Мадальны заробак — гэта такі звер, які найчасцей сустракаецца ў нашых лясах. Іншымі словамі, заробак, які налічваецца найбольш часта.

Мадальны заробак за лістапад–2017 склаў 443,4 BYN — або 53% ад сярэдняга. У Мінску найбольш часта налічваўся заробак у 699,5 BYN (60,7% ад сярэдняга). У снежні сярэдняя заробкі падскочылі, у студзені — зменшыліся. У выніку лютаўскія мадальныя зарплаты апынулася ледзь вышэй за лістападаўскія. З гэтага вынікае, што ў сярэднім па краіне найбольш часта налічваўся заробак за люты–2018 пад 500 BYN, а па Мінску, хутчэй за ўсё, ён вагаўся каля 700 BYN.

Калі адмінусаваць ад налічаных 500 BYN і 700 BYN заробку падаходны падатак і ФСАН, можна атрымаць уяўленне пра тыя грошы, якія атрымліваў на рукі звычайны беларус і звычайны мінчанін. У выпадку краіны гэта будзе каля 440 BYN, у выпадку Мінска — каля 610 BYN.

Варта зазначыць, што гэты заробак — больш рэальны за «сярэдні» і ў прынцыпе суадносны з тым, які прапануюць працадаўцы на біржах працы. Але галоўная праблема — ці хапае яго на жыццё.

Не дзіва, што, паводле дадзеных таго ж Белстата, у Беларусі ў 2017 годзе вырасла колькасць сем'яў, якія апынуліся за нацыянальнай рысай беднасці. У мінулым годзе ў 5,9% сем'яў даходы былі ніжэй за бюджэт пражытачнага мінімуму (192,4 рубля ў месяц на чалавека). Годам раней гэты паказчык складаў 5,7%.

Калі параўноўваць па рэгіёнах, то вышэй за ўсё ўзровень малазабяспечанасці ў Брэсцкай вобласці — 8,4%, а ніжэй за ўсё — у Мінску (1,6%, узгадайце пры гэтым мадальны заробак, які ў Мінску вышэйшы). Пры гэтым колькасць беднякоў знізілася толькі ў Магілёўскай вобласці — на 0,1%, ва ўсіх астатніх рэгёнах вырасла.

Але ж у нас амбіцыі! У нас жа пасяўная і «будоўлі стагоддзя»! Усе ўжо забыліся, як Аляксандр Лукашэнка рассякаў па МКАД-2 за стырном, пры гэтым не прышпіліўшы рамень бяспекі. Гэта было аж тры гады таму! А зараз аказваецца, мы гэтую дарогу яшчэ нават не дарабілі!

Беларусь даробіць МКАД-2 за кошт еўрапейскага крэдыту, паведаміла прэс-служба Міністэрства транспарту і камунікацый Беларусі. Мінтранс і ЕБРР «падпісалі крэдытнае пагадненне па рэканструкцыі ўчастка аўтамабільнай дарогі Р-80 Слабада — Паперня, км 0,000 — км 14,77», гаворыцца ў паведамленні. Паводле інфармацыі ведамства, гэтая рэканструкцыя з'яўляецца завяршальным этапам будаўніцтва МКАД-2. Сума крэдыту — 42,45 млн еўра.

У мяне пытаннечка: куды падзеўся «дарожны збор», які трасуць з аўтааматараў? Чаму мы зноў лезем у пазыкі, хаця, па ідэі, аж двойчы плацім (дарожны збор плюс акцыз на паліва) за будаўніцтва дарог?

І яшчэ адна аўтааматарская навіна. Нам было мала «Джылі». У Беларусі будуць выпрабляць іранскія аўтамабілі «Dena». Iran Khodro Company (IKCO) і СП ЗАТ «Юнісан» падпісалі кантракт на вытворчасць у Беларусі аўтамабіляў «Dena» і «Dena Plus».

Кантракт падпісаны на сумесную вытворчасць 1000 адзінак аўтамабіляў. Але раней быў падпісаны мемарандум, згодна з якім у Беларусі ў бліжэйшыя пяць гадоў мяркуецца выпусціць 5 тысяч аўтамабіляў.

Што можна сказаць пра «Dena»? «Забытая марка бюджэтных аўто», — піша пра яе сайт carsguru.net. А водгукі на autonet.ru уражваюць: «машына толькі для тых, хто гатовы прыкладаць да яе рукі», «усё можна зрабіць сваімі рукамі»... Карацей, канструктар для дарослых.

Жонкам і хатнім гаспадыням трэба тэрмінова заблакаваць працу «Юнісана». Раней яны браліся за такі ж «канструктарскі» «Саманд», зараз «Dena». Падаецца, гэтая фірма не аўтамабілі выпускае, а «адмазку» для мужыкоў, якім патрэбная нагода, каб завіснуць у гаражы.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Алег Трусаў



**Улады зарэгістравалі прыватны ўніверсітэт, навучанне ў якім будзе весціся па-беларуску. Гісторык Алег Трусаў, верагодна, стане рэктарам установы.**

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны (ТБМ) — заснавальнік Нацыянальнага ўніверсітэта імя Ніла Гілевіча — атрымала 15 сакавіка пасведчанне аб юрыдычнай рэгістрацыі ўстановы. «Дзяржаўныя органы зарэгістравалі нас, усе дакументы на руках», — распавядае Трусаў. Па яго словах, гэта будзе звычайны прыватны ўніверсітэт. «У пачатку ў ім з'явяцца тры факультэты — гуманітарны, сацыялогіі і мастацтваў і факультэт філалогіі, замежных моў і перакладаў. Мы будзем рыхтаваць нацыянальную эліту — культуролагаў, гісторыкаў, перакладчыкаў, дыпламатаў, журналістаў, людзей, якія маюць нацыянальную свядомасць», — кажа Трусаў. Тэхнічныя спецыяльнасці могуць з'явіцца ва ўніверсітэце не раней, чым праз некалькі гадоў.

Каб атрымаць ліцэнзію, універсітэт павінен здаць у Міністэрства адукацыі адмысловы набор дакументаў, які зараз рыхтуецца. Навучанне будзе платным, а ўжо з 1 кастрычніка ТБМ плануе адкрыць падрыхтоўчыя курсы для будучых студэнтаў.

ВНУ будзе арыентавацца на беларускамоўнае навучанне. «Набіраць мы будзем любых студэнтаў — хоць кітайцаў, хоць малдаван, але вучыць будзем па-беларуску», — кажа Трусаў.

## Уладзімір Някляеў



**Паэт і адзін з лідараў БНК усё ж адсядзеў палову тэрміну за выказванне свайго меркавання.**

Някляева затрымалі днём 21 сакавіка. Падставай для гэтага сталі 10 сутак арышту, прысуджаныя завочна ў лістападзе 2017 года за інтэрв'ю, у якім Някляеў распавёў пра «Марш абураных беларусаў» 21 кастрычніка 2017 года. Вызвалілі палітыка вечарам 25 сакавіка.

«Шэраг дыпламатаў замежных краін выказалі здзіўленне, чаму грамадзяніна Рэспублікі Беларусь садзяць за інтэрв'ю, за выказаную пазіцыю. Тады кіраўнік краіны праз МЗС сказаў, што гэта непаразуменне будзе выпраўлена. Пастанова суда не адмяняецца, але Някляеў за інтэрв'ю адбываць пакаранне не будзе, бо ён мае права выказваць сваё меркаванне, што гарантавана беларускай Канстытуцыяй. Дыпламаты супакоіліся. Праходзіць час — і па гэтым прысудзе мяне саджаюць у турму. Узнікае пытанне, калі нават у такой дробязі кіраўнік дзяржавы не трымае свайго слова, то што тады з ім рабіць у палітычным дыялогу паміж ЕС і Беларуссю?» — пракаментаваў сваю «паўадсідку» паэт.

Што ж да шэсця, то ўлады, па словах Някляева, проста не зразумелі ідэю. «Шэсце мы хацелі правесці ў якасці падзякі тым людзям, якія сто гадоў таму, паміж двума войнамі, двума варожымі сіламі, не пабаяліся, праявілі свой патрыятызм, любоў да сваёй радзімы, і ўпершыню ў гісторыі абвясцілі пра стварэнне беларускай суверэннай дзяржавы. Асноўная яго ідэя — гэта незалежнасць і выяўленне нашай гатоўнасці адстойваць незалежнасць. Не пра тое, як выкруцілі ўлады — маўляў, шэсце будзе пратэстным, супраць кіраўніцтва краіны. На самай справе, гэта быў бы марш незалежнасці і падзякі».

## Вікторыя Азаранка



**Беларуская тэнісістка паспяхова вярнулася на корт. Яна паказала бліскучы тэніс на турніры ў Маямі.**

Ніхто не чакаў, што Азаранка выступіць так годна. На момант напісання нататкі яна дайшла да паўфіналу. У матчы 1/4 фіналу беларуска перамагла саперніцу з Чэхіі Караліну Плішкаву з лікам 7:5, 6:3. Плішкава, як і Азаранка, — былая лідарка сусветнага рэйтынгу Жаночай тэніснай асацыяцыі.

У гісторыі супрацьстаяння з ёй Вікторыя зараз мае перавагу — 3:1.

У паўфінале Азаранка згуляе са Слоан Стывенс. Азаранка прайграла ёй 12 сакавіка на турніры ў Індыян-Уэлсе (1:6, 5:7).

У 1/8-й фіналу суперніцай Азаранка стала полька Агнешка Радваньска, з якой у беларускі цяпер аднолькавая колькасць выйграных індывідуальных тытулаў Жаночай тэніснай асацыяцыі. Рэйтынг Радваньскай — 32, а ў беларускі — 186.

Азаранка ўсё яшчэ разлічвае на свой чацвёрты тытул у Маямі (раней яна перамагала тут у 2009, 2011 і 2016 гадах).

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Кароткі курс сучаснай міфатворчасці




**Пераўтварэнне Беларусі ў ІТ-краіну не знізіць запатрабаванасць у міфах.**

Днямі я, згодна з прынцыпам «лепш позна, чым ніколі», вырашыў далучыцца да facebook. Зарэгістраваўся. Паблукаў па старонках знаёмых мне людзей. Паспрабаваў паўдзельнічаць у дыскусіях. Дый як утрымацца, калі натыкаешся, да прыкладу, на наступнае выказванне вядомага беларускага палітолага: «У адпаведнасці са сваёй гістарычнай прыродай, вопытам і спадчынай, Беларусь не толькі не з'яўляецца часткай «Еўразіі» як геапалітычнай прасторы (спадчына імперыі манголаў), але была і застаецца пачаткам, што ёй супрацьстаіць. <…> Лукашэнка, па сваім характары, еўразіец — інтэгральны элемент еўразійскага свету, з дапамогай якога еўразійства глыбока ўкаранілася ў беларускай прасторы. Яго ўплеценасць у еўразійства ніколі не дазволіць яму выказваць і абараняць інтарэсы Беларусі — па той простай прычыне, што ён іх не ўсведамляе і не разумее».

Вось такая загагуліна паліталагічнай думкі. Беларусь не з'яўляецца часткай Еўразіі, што, аднак, не перашкаджае еўразійству глыбока ўкараніцца ў беларускай прасторы.

На гэтым спіс парадоксаў не заканчваецца. Адзіны палітык (АП), што пяты тэрмін утрымлівае ўладу, аказваецца, не здольны выказваць і абараняць інтарэсы Беларусі. Больш за тое — нават не ў стане іх усвядоміць і зразумець. Ну чысты марсіянін!

### Крыху сацыялогіі

За апошнія дні падчас размоваў на разнастайных тусоўках мне неаднаразова даводзілася цытаваць вызначэнне дзяржавы, якое я запазычыў з кнігі «Новая імперская гісторыя Паўночнай Еўразіі»: «Дзяржава — не матэрыяльны і бачны будынак, а сістэма адносін і асаблівы спосаб сацыяльнага мыслення».

Магчыма, пры поглядзе на беларускую дзяржаву з далёкага космасу, яна і будзе выглядаць маналітам. Але ўжо з нізкай касмічнай арбіты і без адмысловай оптыкі пачнуць праступаць дэталі ў выглядзе інтарэсаў розных узроставых, прафесійных, гендарных і іншых груп. І гэтыя інтарэсы часта не толькі не супадаюць, але, здараецца, і ўзаемавыключаюць адзін аднаго.

Дзе ж у гэтай разнастайнасці інтарэс самой Беларусі? А ён не існуе — і не можа існаваць! — у выглядзе выразна артыкуляванага ды аднойчы і назаўсёды дадзенага.

Аўтар прыведзенага ў пачатку артыкула выказвання пра еўразійства з такой катэгарычнай высновай наўрад ці пагадзіўся б. Мяркую, ён сябе адчувае еўрапейцам, але з гэтага факту не вынікае, што ўсё нееўрапейскае, усё еўразійскае не наклала свой адбітак на «спосаб сацыяльнага мыслення», дзякуючы якому стала магчымым існаванне беларускай дзяржаўнасці.

А цяпер — крыху сацыялогіі ад НІСЭПД. У сакавіку 2009 года на пытанне «Ці адчуваеце вы сябе еўрапейцам, ці адчуваеце вы сваю прыналежнасць да культуры і гісторыі еўрапейскага грамадства?» сцвярджальна адказалі 37%, адмоўна — 53% і не здолелі вызначыцца з адказам — 10%.

Калі ўсіх нееўрапейцаў разам з тымі, хто не здолеў адказаць, лічыць еўразійцамі (што ў першым набліжэнні будзе не так ужо і далёка ад ісціны), то мы атрымаем цалкам стандартныя суадносіны для расколатага грамадства. Ці здагадваецца АП пра інтарэсы беларускай большасці, ці гатовы ён іх абараняць? Дык ён жа толькі гэтым і заняты на працягу ўжо амаль 24 гадоў!

Іншая справа, што АП не заўважае меншасць, ядро якой складаюць маладыя, адукаваныя жыхары вялікіх гарадоў. Гэта значыць, не заўважае тых, хто ў наш дынамічны час уносіць асноўны ўклад у развіццё. Адсюль і вынік, агучаны АП на нарадзе 2 сакавіка. Нагадаю чытачам, што пры росце сусветнага ВУП за сем апошніх гадоў на 25%, рост ВУП Беларусі не дацягнуў нават да 6%.

### «Гэта святое»

Міфалагічныя ўяўленні не маюць патрэбы ў тэарэтычных абгрунтаваннях, што дазваляе ім на працягу дзесяцігоддзяў існаваць паралельна. Але ў медаля «За адданасць міфам» ёсць і адваротны бок, бо міф, паводле гісторыка Уладзіміра Булдакова, «вырастае на глебе агульнага страху перад варожым асяроддзем».

Для АП у якасці такога выступае мадэрнізаваная меншасць, а для многіх незалежных беларускіх аналітыкаў — еўразійская большасць. Выхад з дыскамфортнага стану ў абодвух выпадках знаходзіцца праз стварэнне міфа пра адзіны беларускі народ. Гэта адзінства дасягаецца шляхам адмаўлення варожаму асяродку ў праве на існаванне.

Здавалася б, пры наяўнасці сучасных сродкаў масавых камунікацый, якія дазваляюць з дапамогай некалькіх клікаў адшукаць любую інфармацыю, у грамадскай свядомасці месца для веры і міфаў не застаецца. Але не ўсё так проста. «Міф, — тлумачыць дырэктар Лявада-цэнтра, сацыёлаг Леў Гудкоў, — па сутнасці сваёй ірацыянальны. Менавіта таму сродкаў барацьбы з ім практычна няма. Інтэрнэт — гэта ўсяго толькі інструмент перадачы. Яму ўсё роўна, што трансляваць, — міф ці інфармацыю, якая развейвае гэты міф».

Міф працуе на спрашчэнне. Інакш ён не можа быць татальным. Адсюль схільнасць спецыялістаў па міфатворчасці да стварэння эпічных палотнаў з дапамогай двух колераў — чорнага і белага. Ёсць свае (еўрапейцы) і ёсць ворагі (еўразійцы). Ёсць «наша Перамога» і ёсць тыя, хто хоча яе ў нас забраць. Сярэдзіны не дадзена, таму нявызначаных — супраць іх волі — тут жа запісваюць у лагер ворагаў.

Спіс афіцыйных міфаў, што рэгулярна тыражуюцца прапагандай, шырокі. Каб далёка не хадзіць за прыкладамі, звярнуся да інтэрв'ю АП, якое ён даў грузінскаму тэлебачанню 23 сакавіка. Інтэрв'ю пачалося з разваг пра моцную прэзідэнцкую ўладу, якая выратавала краіну ад спусташэння. Далей ішоў плаўны пераход на тэму прышчэпкі нашаму народу імунітэту да ўзрушэнняў і рэвалюцый («Наш народ на гэта ніколі не пойдзе»), пасля чаго АП папрасіў тэлежурналістаў не хваляваацца за стабільнасць у Беларусі: «Гэта святое для нас. Гэта наш брэнд. І мы яго не збіраемся кудысьці выкідаць».

> **АП не заўважае тых, хто ўносіць асноўны ўклад у развіццё. Адсюль і вынік, агучаны АП на нарадзе 2 сакавіка: пры росце сусветнага ВУП за сем апошніх гадоў на 25%, рост ВУП Беларусі не дацягнуў нават да 6%**

Калі пагадзіцца з Бібліяй, то гісторыя чалавецтва пачалася з выгнання Адама і Евы з раю. З тых часоў масавае імкненне вярнуцца пад райскія шаты выклікана не колькі праклёнам, які абавязвае чалавека праз пот здабываць хлеб свой надзённы, колькі жаданнем зноў апынуцца ў беспраблемным свеце, у якім не трэба пастаянна рабіць асабісты выбар. Менавіта такі свет і абяцаюць стварыць палітычныя міфатворцы, і АП у іх шэрагу — не выключэнне.

### Грэх спрашчэння

Яшчэ адна асаблівасць фэйсбучных палітызаваных дыскусій — імкненне ацэньваць грамадства ў цэлым паводле індывідуальных крытэраў. У якасці прыкладу прыводжу амаль гамлетаўскае пытанне ўжо цытаванага ў пачатку артыкула палітолага: «Дык разумны наш народ ці дурны?»

Мне ўжо неаднаразова даводзілася адзначаць, што народы не бываюць ні разумнымі, ні дурнымі, ні добрымі, ні злымі. Усе яны рухаюцца ў адным кірунку, але з рознай хуткасцю, ад аграрнай эканомікі да індустрыяльнай і постындустрыяльнай, і ацэньваць носьбіта аграрнай культуры па мерках культуры постындустрыяльнай — занятак надзвычай бессэнсоўны.

Праілюструю дадзеную азбуквую ісціну на прыкладзе, запазычаным у культуролага Андрэя Пеліпенкі: «Давайце ўявім сітуацыю, калі ў якой-небудзь заходняй краіне ўрад прыняў непапулярны закон. Што робіць грамадства? Самаарганізуецца ў суполкі і легітымным шляхам з дапамогай палітычнай і грамадскай актыўнасці дамагаецца адмены закону або яго перагляду. Што ў аналагічным выпадку адбываецца ў нас, дзе колькасць ідыёцкіх і невыкананальных законаў на парадкі вышэйшая? Кожны ціха і ў адзіночку абыходзіць закон, як можа».

Ці правільна патлумачыць такія паводзіны нашага чалавека глупствам? Я б не спяшаўся з падобнай высновай. Пазбаўлены ўнутранай крыніцы парадку, тыповы прадстаўнік нашай большасці не будзе бунтаваць супраць улады, бо няма для яго нічога страшнейшага за безуладдзе. Таму ўладзе ён даруе ўсё. Дакладней, любое асуджэнне яе неправавых дзеянняў псіхалагічна блакуецца.

Падсудная ўлада не можа быць сакральнай, адсюль тая энергія, з якой сістэма ратавала ад пакарання сваіх! Колькі ў памяці ні шукай, а ўзгадаць прыклад публічнай адказнасці ўлады перад грамадствам не атрымліваецца. Іншая справа — адказнасць падначаленых перад начальнікамі! Перад начальнікам — калі ласка. Адказнасць жа ўлады перад законам раўнасільная дэманстрацыі слабасці і непаўнавартасці.

Безумоўна, калі аўтар «Азбукі паліталогіі» аддзяляе ўладу ад народа (грамадства), ён сам упадае ў грэх спрашчэння. 70-тысячны калектыў участковых выбарчых камісій — гэта ўлада ці народ? Мяркуючы па прафесійным складзе — народ. А калі ацэньваць з пункту гледжання ўкладу ў падтрыманне стабільнасці «беларускай мадэлі» — адзін з найважнейшых дзяржаўных інстытутаў.

* * *

Для вырошчвання агуркоў на дачы цалкам можа хапіць навыкаў, атрыманых «ад жыцця». Зрэшты, АП так робіць і пры прыняцці дзяржаўных рашэнняў. Ці варта пасля гэтага здзіўляцца, што беларусы ездзяць за пакупкамі ў Еўропу, а не еўрапейцы ў Беларусь.

# Віртуальнай краіне — віртуальныя грошы

## Ці выратуе Вейшнорыя беларускі крыптаталер?

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**Нешта з грашыма ў Беларусі не ладзіцца. Да таго, што часам ліхаманіць афіцыйны беларускі рубель, мы прызвычаіліся. Але і праект беларускай крыптавалюты — «талера» — усё ніяк не можа дайсці да ладу.**

Суаўтар «талера» Сяргей Лаўрыненка не так даўно заявіў пра выхад з праекта. Па яго словах, «у карабля не можа быць двух капітанаў», і ён «не хоча браць на сябе адказнасць за словы, якія не казаў, за дзеянні, якіх не рабіў ці не перарываў, за вектар «унутранай» і «знешняй» палітыкі». Карацей, «талерам» Лаўрыненка больш не займаецца.

Другі аўтар «талера», Дзяніс Лаўнікевіч, сказаў dev.by, што ў супольнасці сапраўды было шмат спрэчак пра тое, як павінен развівацца праект, і яго ўдзельнікі моцна разышліся ў поглядах. «Але “талер” — групавы праект, таму я вырашыў: калі Сяргей сыходзіць, я таксама не хачу займацца ім адзін. Праект не завяршаецца, але пераходзіць пад заступніцтва “Вейшнорыі”, з якой мы даўно супрацоўнічаем. І Сяргей, і я перадаём сваю долю прэмайнінга гэтаму праекту, і з гэтага часу я буду працягваць развіваць “талер” ад імя віртуальнай краіны «Вейшнорыя», — заявіў ён.

### Крыпта ці валюта?

У прынцыпе, крыптавалюты ліхаманіць па ўсім свеце. І гэта не дзіўна, бо дагэтуль свет не разабраўся, што гэта такое і з чым яго ядуць.

З аднаго боку, усё зразумела. Крыптавалюта — гэта тэхналогія блокчэйн. Уявіце сабе лічбавую гісторыю хваробы: кожны запіс у ёй — асобны блок. У кожным блоку (запісе) ёсць пазнака: дата і час унясення зменаў. Прычым, забаронена змена запісаў «заднім лікам», таму што трэба, каб запісы аб дыягностыцы, лячэнні і гэтак далей не дапускалі розных тлумачэнняў і заставаліся ў зыходным выглядзе. Да запісаў могуць атрымаць доступ толькі лекар, у якога ёсць адзін закрыты ключ, і пацыент, у якога ёсць іншы.

Затым да гэтай інфармацыі атрымаюць доступ толькі тыя, каму адзін з гэтых карыстальнікаў прадставіць свой закрыты ключ (напрыклад, бальніца ў цэлым або асобны спецыяліст). Так можа выкарыстоўвацца тэхналогія блокчэйн у медыцынскай базе дадзеных.

Усе змены ў «медычнай картцы» фіксуюцца ў блоках. То бок, гэта прынцыпова не фальсіфікуемая і размеркаваная база дадзеных.

З крыптавалютай — тое ж самае. Толькі замест медычных запісаў — запісы пра транзакцыі і іншыя дзеянні з «валютай». Дадаванне новых блокаў у «гісторыю хваробы» — гэта і ёсць майнінг.




Адсюль вынікае — найбольш каштоўнае ў «крыптавалюце» — усё ж «крыпта», а не «валюта». Гэта сапраўды карысная тэхналогія. Але, як заўсёды, чалавецтва, якое спрашчае блокчэйн да крыптавалютаў, забівае цвікі мікраскопам.

### Чаго яна вартая?

Звычайна валюта — гэта грошы, якія раней былі забяспечаныя каштоўнымі металамі, камянямі і тым, што мы называем золатавалютным запасам. Зараз — са сконам прывязкі грошай да залатога стандарту — лічыцца, што грошы краіны забяспечвае ВУП краіны.

Крыптавалюта ж не забяспечваецца нічым. Некаторыя яе аматары кажуць, што гэтыя «нібыта грошы» забяспечаны страчанай на яе здабычу электрычнасцю ці магутнасцямі працэсара. Але слаба ўяўляецца, каб валюта была забяспечаная не створанымі, а страчанымі рэсурсамі. Дэ-факта, крыптавалюта «забяспечаная» толькі істэрыкай, якая разгарнулася вакол яе ў СМІ. То бок, уся каштоўнасць крыптагрошай існуе ва ўяўленні людзей, якія гэтым уяўленнем надаюць ёй нейкую каштоўнасць.

Насамрэч крыптавалюта — гэта чыстая матэматыка. І скарыстоўваць яе ў якасці аплаты за паслугі і тавары можна толькі з тымі людзьмі, якія таксама падзяляюць уяўленні пра яе каштоўнасць. Як каштоўнасць блокчэйнавай гісторыі хваробы цікавая толькі дактарам і пацыенту, так і блокчэйнавая «валюта» мае вартасць толькі для тых, хто ў яе верыць і ёю карыстаецца.

Прадаўцы «крыпты» гэтага, дарэчы, і не хаваюць. «У чым крыніца фармавання кошту біткойна? Ён суб'ектыўны. Гэта грамадская думка. Калі казаць простымі словамі, чым больш людзей лічаць гэтую валюту жыццяздольнай і выгоднай, тым вышэй попыт на яе», — піша, напрыклад, сайт ***биткоин-клуб.рф.***

Не дзіва, што першы рост курсу біткойна (увосень 2015 года гэтая крыптавалюта падаражэла на 97%, перавысіўшы 490 долараў) быў звязаны з фірмай MMM Global Republic Bitcoin сумнавядомага расійскага прадпрымальніка Сяргея Маўродзі. 12 красавіка 2016 года MMM Global спыніла выкарыстанне біткойнаў з-за немагчымасці выканаць па іх свае абавязальніцтвы — у духу класічнай фінансавай пірамiды, чым яна, уласна, і была.

### Талер

Навучаныя рознымі падобнымі схемамі, беларусы не вельмі давяраюць такім «валютам», таму асаблівага ажыятажу стварэнне «талера» не выклікала. А тут яшчэ арганізатарам беларускай «крыпты» падклалі свінню майнеры.

Тыя, хто лічаць «крыпту» валютай, як асноўную яе перавагу падаюць тое, што яна не рэгулюецца дзяржавай, і ўвогуле, не рэгулюецца нікім. «Ланцуг блокаў» — абмежаваны, а таму, маўляў, гэтыя «грошы» не павінны зазнаваць ані інфляцыі, ані дадатковай эмісіі. Бо няма Цэнтрабанку, які рэгулюе іх выпуск.

Як толькі пайшоў тэставы запуск «талера», яго заўважылі прафесійныя майнеры — і падключылі свае «майнінг-фермы» для здабычы беларускай «крыпты». «І ва ўсіх, у каго да гэтага ў тэставым рэжыме ішоў майнінг на звычайных кампутарах, ён, у выніку, устаў калом. У мяне, напрыклад, на хатніх кампутарах з 6 кастрычніка не намайнілася ніводнага талера. Проста таму, што хтосьці падключыў фермы лайткойна і перабіў майнінг усім», — жаліўся Дзяніс Лаўнікевіч.

Забраць ужо здабытыя «талеры» ў несумленных прафесійных майнераў немагчыма. Таму айцы-заснавальнікі талера змянілі алгарытм яго здабычы, каб перашкодзіць «фермам». То бок, дэ-факта яны выступілі ў ролі таго самага Цэнтрабанку, вырашаючы, каму здабываць талер, а каму — не, і «адрэгулявалі» выпуск талера.

Пасля такога наўрад ці хто паверыць у «немагчымасць эмісіі» крыптавалюты.

### Вейшнорыя

Пакуль заснавальнікі «талера» разбіраліся са сваімі праблемамі, не меншыя праблемы разграбала віртуальная дзяржава Вейшнорыя. Створаная падчас вучэнняў «Захад–2017» інтэрнэт-краіна вырашала, куды ёй рухацца далей.

Першапачатковы ажыятаж вакол яе прайшоў. Спроба ператварыць яе ў бізнес-праект, прадаючы цішоткі з лагатыпам Вейшнорыі, вокладкі для пашпартоў, сувенірныя манеты-«талеры», асаблівага плёну не дала. Як і не далі вялікага плёну спробы стварыць з Вейшнорыі пэўную экспертную супольнасць па выпрацоўцы віртуальных законаў і падыходаў, якія можна было б ажыццявіць у рэальнай Беларусі са зменай улады. Большасць «грамадзян Вейшнорыі» (іх колькасць зараз складае каля 15 тысяч асобаў) прынялі ўдзел у «інфармацыйнай вайне супраць агрэсара», паўдзельнічалі ў вясёлых «выбарах у Сойм» — і на гэтым іх актыўнасць скончылася.

Зараз Вейшнорыя спрабуе ператварыцца ў пэўную інтэрнэт-супольнасць, дзеянні якой выліваліся б у канкрэтныя афлайнавыя грамадзянскія праекты. Перароблены сайт ***вейшнория.бел*** дазваляе грамадзянам віртуальнай краіны вольна стасавацца праз публічныя і асабістыя паведамленні (то бок, гэта своеасаблівы лакальны фэйсбук), знаходзіць каля сябе іншых грамадзян краіны, разам ствараць лакальныя арганізацыі і сумесна выконваць пастаўленыя мэты.

Просты прыклад: супраціў вырубцы зялёнай зоны. Праз сайт «грамадзянін Вейшнорыі» бачыць, што ў гэтым жа раёне жывуць яшчэ пяць такіх жа «вейшнорцаў». Ён звяртаецца да іх па дапамогу, і ў выніку ён ужо не адзін — створаная ініцыятыўная група.

На платформе віртуальнай краіны ёсць яшчэ шмат цікавых фішак. Напрыклад, у яе інтэграваны інтэрнэт-плэер для праслухоўвання радыё. Перамяшчаючы сваё месцазнаходжанне на мапе свету, можна слухаць каля 140 тысяч радыёстанцый. Падчас прэзентацыі сайту яго стваральнікі злавілі нават Novorossia Rock (дарэчы, неблагое радыё).

### Вейшнорыя — талеру, талер — Вейшнорыі

З прыходам у Вейшнорыю крыптавалюты «талер» вырашаецца адразу некалькі задачаў. Па-першае, урэшце стала зразумела, навошта яе грамадзянам фізічная «карта вейшнорца». Распрацаваная як сувенір, яна мае ўнікальны QR-код. Зараз гэты код з'яўляецца доступам да віртуальнага гаманца «грамадзяніна Вейшнорыі». І, дзякуючы стваральнікам «талера», у гэтым гаманцы ў кожнага «вейшнорца» ляжыць 1 талер.

Праз «талер» можна забяспечыць фінансаванне лакальнай кампаніі. Напрыклад, актывістам супраціву вырубцы зялёнай зоны трэба надрукаваць улёткі для інфармавання пра праблему насельніцтва. Дзеля гэтага яны могуць скінуцца ўласнымі «талерамі», а могуць запусціць на сайце краўдфандынгавую кампанію. «Крыптаталеры» будуць пералічаны на іх гаманец, а ўжо якая іх рэальная каштоўнасць — яны вызначаць самі (зразумела, як і ў любой краўдфандынгавай кампаніі за атрыманыя грошы давядзецца трымаць справаздачу).

Талер можа стаць сродкам разліку паміж «грамадзянамі Вейшнорыі». У час той жа прэзентацыі адзін «вейшнорац» праз мабільнік перакінуў свой талер другому «вейшнорцу», за што другі праставіў піва (падзея адбывалася ў бары «Валерыя»).

Такім чынам, «крыптаталер» можа ператварыцца ў сапраўдную валюту пэўнай супольнасці. А абменны курс «талера» на нармальныя грошы вызначаць самі сябры гэтай супольнасці.

### Будучыня цмяная, але цікавая

Зразумела, адна Вейшнорыя не можа зрабіць «крыптаталер» сапраўднымі грашыма. Але, тым не менш, інтэграцыя талера ў Вейшнорыю дае пэўныя выгоды — хаця б павялічвае абарачальнасць гэтых «грошай». Што надае ім пэўную каштоўнасць у вачах пэўнай супольнасці.

Адначасова талер падмацоўвае саму ідэю Вейшнорыі, а ідэя ў віртуальнай дзяржаве — гэта галоўнае.

Прысутны на той жа прэзентацыі гісторык, намеснік старшыні Партыі БНФ Ігар Лялькоў зазначыў, што сто гадоў таму ўмоўнай Вейшнорыяй была... Беларуская Народная Рэспубліка. У фізічным плане ўлада БНР не распаўсюджвалася ані на лапік той тэрыторыі, дзе яна была абвешчаная. Але зараз менавіта БНР, — то бок ідэя, агучаная яе стваральнікамі, — лічыцца адным з падмуркаў беларускай дзяржаўнасці.

Хто каго выратуе — «талер» Вейшнорыю ці Вейшнорыя «крыптаталер»? У любым выпадку, гэта будзе цікавая гісторыя.

# «Пакт Манклаа» па-беларуску

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Нечарговая 11-я сесія вышэйшага заканадаўчага і прадстаўнічага органа ўлады — Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12 склікання — распачала працу 23 сакавіка 1993 года. А ўжо 25 сакавіка (у піку 75-гадоваму юбілею абвяшчэння БНР) дэпутат Міхаіл Качан заявіў пра стварэнне дэпутацкай групы камуністаў.**

**Гэта сесія адметная не толькі сваёй працягласцю (з 23 сакавіка па 9 красавіка), але і пытаннямі, якія на ёй абмяркоўваліся. Некаторыя з іх з'яўляюцца актуальнымі і сёння.**

## Усе шляхі вядуць у Мадрыд

Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч у сваёй прамове ўхваліў пачатак працы сесіі і канстатаваў тэндэнцыю, якая, па сутнасці, існуе ў краіне на працягу чвэрці стагоддзя: супрацьстаянне двух падыходаў да ацэнкі рэчаіснасці і да шляхоў выхаду з крытычнага стану. Кожны з бакоў, казаў старшыня, адмоўна ацэньвае ўсе фрагменты гісторыі і ўчынкі, якія ўхваляе іншы бок. Гэта, у сваю чаргу, вядзе да знявагі і незаслужанага звужэння цэлага шэрагу гістарычных падзей мінулага, якімі могуць ганарыцца любая дзяржава, любая нацыя.

Станіслаў Шушкевіч, канешне, меў на ўвазе і абвяшчэнне незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) 25 сакавіка 1918 года, супраць чаго выступалі многія кансерватыўныя айчынныя гісторыкі і палітыкі (25 сакавіка 1993 года, пасля таго, як дэпутат Анатоль Вярцінскі пад апладысменты калегаў павіншаваў іх з 75-мі ўгодкамі гэтай падзеі, Шушкевіч заклікаў ганарыцца тым добрым, што было ў беларускім мінулым; кіраўнік парламента таксама выказаў надзею, што праціўнікі БНР з цягам часу зразумеюць яе ролю ў беларускай гісторыі).

Якое ж было выйсце з крытычнага стану? Шушкевіч прывёў прыклад Іспаніі другой паловы 1970-х гадоў, калі пасля смерці Франка розныя палітычныя сілы здолелі знайсці кансенсус, суіснаваць і супрацоўнічаць. Таму, быў упэўнены Шушкевіч, Беларусі патрэбны свой «пакт Манклаа» (умоўная назва шэрагу дакументаў, падпісаных у рэзідэнцыі іспанскага прэм'ер-міністра), які забяспечыць ёй сапраўдную дэмакратыю і трывалую эканоміку. Калі эканамічную частку такога пакта павінен забяспечыць урад, то палітычную — Вярхоўны Савет шляхам прыняцця новай Канстытуцыі, якая, па словах Шушкевіча, павінна была стаць агульным помнікам ахвярам таталітарных, антычалавечых і антыбеларускіх рэжымаў.




**Беларускае згуртаванне вайскоўцаў на мітынгу ў Мінску, 21 сакавіка 1993 года. Крыніца: vytoki.net**

І праз дваццаць пяць гадоў зноў паўстае пытанне з Канстытуцыяй. Аляксандр Лукашэнка чарговы раз 15 сакавіка 2018 года казаў пра неабходнасць рэформы Асноўнага Закона, але так і не наважыўся раскрыць сутнасць будучых зменаў і дапаўненняў.

## Пытанні, пытанні...

На разгляд сесіі былі прапанаваны законапраекты, якія закраналі кожнага жыхара краіны. Большасцю галасоў дэпутаты ўнеслі ў павестку дня, а потым, на працягу 23–25 сакавіка, зацвердзілі ў першым чытанні праекты Грамадзянскага, Крымінальна-працэсуальнага і Крымінальнага кодэксаў, праектаў законаў аб Канстытуцыйным судзе, аб адвакатуры, аб судовым ладзе і статусе суддзяў.

Па словах пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета па заканадаўстве Дзмітрыя Булахава, з прыняццем гэтых законапраектаў парламентарыі падышлі да пэўнага этапу ў сваёй дзейнасці і выйшлі на чарговую фазу прававой рэформы.

Адзіны законапраект, які быў адхілены дэпутацкай большасцю, тычыўся Следчага камітэта. Парламентарыі палічылі немэтазгодным стварэнне гэтага органа, які можа разбурыць усю структуру папярэдняга следства ў краіне.

Па прапанове старшыні пастаяннай камісіі па эканамічнай рэформе, дасягненні эканамічнай самастойнасці і суверэнітэту рэспублікі Леаніда Козіка, таксама ў павестку дня былі ўнесены пытанні аб эканамічнай сітуацыі ў Беларусі, стане і развіцці эканамічных адносінаў з краінамі СНД.

Аднак некаторыя пытанні, прапанаваныя дэпутатамі, не былі ўнесены ў павестку дня. Напрыклад, не прайшла прапанова Генадзя Карпенкі пра тое, каб разгледзець у другім чытанні праект закона аб дзяржаўнай службе. Такі ж лёс чакаў прапанову Івана Герасюка пра ўключэнне ў павестку дня праекта пастановы аб адказнасці дзяржаўных служачых за разгляд заяў і скаргаў насельніцтва.

## І атака на Шушкевіча

Дэпутат Віктар Ганчар раскрытыкаваў павестку дня і прапанаваў зрабіць галоўным наступнае пытанне: даклад старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб становішчы рэспублікі і важнейшых пытаннях яе ўнутрыпалітычнай і знешнепалітычнай дзейнасці. На думку Ганчара, у краіне не існуе выключна эканамічнага крызісу, а маецца хутчэй крызіс палітычны. У такім выпадку, лічыў Віктар Ганчар, трэба казаць пра персанальную адказнасць. Ганчар абвінаваціў Шушкевіча ў тым, што кіраўнік парламента нібыта не мае дакладна выразнай палітычнай пазіцыі, у тым ліку і па развіцці краіны.

Пытанне Віктара Ганчара было ўключана з мінімальнай перавагай: «за» прагаласавалі 178 дэпутатаў (з 224) пры кворуме ў 173 чалавекі.

Такі даклад Шушкевіч зрабіў 31 сакавіка 1993 года ў адпаведнасці са 108 пунктам Канстытуцыі.

Даклад Шушкевіча быў структураваны наступным чынам:

1) Пабудова прававой дзяржавы.
2) Эканоміка і сацыяльная палітыка.
3) Ахова здароўя.
4) Навука, адукацыя, культура, рэлігія.
5) Нацыянальная бяспека, барацьба са злачыннасцю.
6) Знешнепалітычная дзейнасць.
7) Шлях выхаду з крызісу — нацыянальная і грамадзянская згода.

Шушкевіч канстатаваў цяжкае становішча амаль ва ўсіх сферах жыцця, аднак выказаў упэўненасць, што няма абсалютнай ідэі, але ёсць кампрамісны ўлік інтарэсаў усіх бакоў.

## Без апазіцыі нікуды

Як і заўсёды, свае пытанні падрыхтавала і парламенцкая апазіцыя Беларускага Народнага Фронту (БНФ). Дэпутат Сяргей Навумчык прапанаваў унесці ў павестку дня пытанне аб стварэнні часовай камісіі па выкарыстанні валютных сродкаў. Парламентарый быў упэўнены, што ў краіне ёсць злоўжыванне пры размеркаванні і выкарыстанні дзяржаўных валютных сродкаў. Навумчык заявіў, што ў камісіі будуць працаваць і «нейтральныя» дэпутаты, каб пазбегнуць абвінавачанняў у палітыканстве. Аднак такая прапанова набрала ўсяго 56 галасоў (пад ціскам Валянціна Голубева і Зянона Пазьняка, якія заявілі, што замест аспірыну ва ўрадзе набылі на 3 мільёны долараў апраў акуляраў, Станіслаў Шушкевіч паставіў прапанову на паўторнае галасаванне, аднак і ў другі раз за яе прагаласавала яўная меншасць — 68 дэпутатаў).

Прапанова Лявонція Здаевіча аб неадкладным прадастаўленні ўсім ахвотным зямельных надзелаў набрала 73 галасы.

Прапанова Мікалая Маркевіча паставіць першасным пытанне аб мінімальнай заработнай плаце набрала 116 галасоў.

Прапанову Яўгена Новікава аб уключэнні ў павестку дня праекта закона аб барацьбе з карупцыяй і арганізаванай злачыннасцю падтрымалі 98 дэпутатаў.

Зянон Пазьняк прапанаваў разгледзець пытанне аб даверы старшыні Савета Міністраў Вячаславу Кебічу. Лідар БНФ тлумачыў сваю ініцыятыву тым, што яшчэ 18 сакавіка 1993 года Кебіч выступіў на семінары старшыняў выканкамаў гарадскіх і раённых Саветаў народных дэпутатаў з дакладам «Аб некаторых пытаннях сацыяльна-эканамічнай і палітычнай абстаноўкі ў рэспубліцы». На думку Пазьняка, у дакладзе




**Пракамуністычная карыкатура наконт пытання калектыўнай бяспекі.** Крыніца: «Мы и время», сакавік, 1993

# і «14 пунктаў» Алега Трусава

Кебіча былі выкладзены думкі, якія «супярэчаць Канстытуцыі, супярэчаць палітыцы парламента, супярэчаць нашай дзяржаве і суверэнітэту». Прапанову Пазьняка падтрымалі толькі 33 народныя дэпутаты.

Цікавае пытанне прапанаваў разгледзіць Віталь Малашка: што будзе з Расійскай Федэрацыяй на бліжэйшую перспектыву, улічваючы імклівае супрацьстаянне паміж прэзідэнтам Барысам Ельцыным і Вярхоўным Саветам Расіі на чале з Русланам Хасбулатавым (апошні наведаў Беларусь 18 сакавіка 1993 года). Малашка прапанаваў даць даручэнне аналітыкам з КДБ зрабіць адпаведную справаздачу. Прапанова Малашкі была сустрэтая са смехам і набрала толькі 27 галасоў. Але ж рэзкае абвастрэнне палітычнай сітуацыі ў Расіі восенню і крывавыя падзеі ў Маскве 3–5 кастрычніка 1993 года сведчылі пра тое, што Малашка меў рацыю.

## І зноў камуністы

На нечарговай адзінаццатай сесіі не абышлося без добрых сяброў-камуністаў. Як вядома, на пасяджэнні дзясятай сесіі Вярхоўнага Савета 3 лютага 1993 года была скасавана пастанова ад 25 жніўня 1991 года аб часовым прыпыненні дзейнасці КПСС-КПБ на тэрыторыі Беларусі. Для камуністаў гэта мела моцнае пазітыўнае псіхалагічнае значэнне і, тэарэтычна, давала магчымасць для далейшага росту.

25 сакавіка 1993 года (у піку 75-гадоваму юбілею абвяшчэння БНР) дэпутат Міхаіл Качан заявіў пра стварэнне дэпутацкай групы камуністаў у Вярхоўным Савеце. У сваёй прамове Качан абвясціў галоўную мэту камуністычнай дэпутацкай фракцыі і партыі камуністаў Беларусі ўвогуле: «Разъяснять белорусскому народу авантюризм и пагубность навязываемого ему курса на реставрацию капитализма; противодействовать любым попыткам ликвидации Советов как формы народовластия; добиваться сохранения в Конституции Республики Беларусь всех прав, свобод и гарантий, завоёванных народом за годы советской власти». Выступ галоўнага парламенцкага камуніста скончыўся не менш пафасна: «Предлагая свой путь, коммунисты не навязывают его никому, но и не позволят силам внутренней и внешней реакции обманом превратить нашу Родину в полигон для сомнительных социальных экспериментов. Наследуя лучшие традиции коммунистического движения, критически оценивая опыт своих предшественников, мы извлекаем уроки из ошибок, черпаем мудрость из богатой истории своего народа».

## «Чыстка» арміі

Кебічаўскае кіраўніцтва пільна сачыла за працэсамі ва Узброеных Сілах краіны і было незадаволенае дзейнасцю шэрагу ваенных патрыятычных структураў кшталту Беларускага згуртавання вайскоўцаў (БЗВ) на чале з падпалкоўнікам Мікалаем Статкевічам. Выступаючы ў









**Мітынгі ў Мінску 8 красавіка 1993 года за і супраць далучэння Беларусі да Дагавора аб калектыўнай бяспецы.** Крыніца: Народная газета, красавік, 1993

Вярхоўным Савеце 25 сакавіка 1993 года, міністр абароны Павел Казлоўскі абвінавачыў БЗВ у тым, што яно нібыта не карыстаецца папулярнасцю і адначасова «своими действиями дискредитирует государственную концепцию военного строительства». Казлоўскі прапанаваў канкрэтнае вырашэнне гэтага пытання. Справа ў тым, што ў частцы 2 артыкула 6 закона аб статусе ваеннаслужачых ад 13 лістапада 1992 года ішла гаворка пра тое, што ваеннаслужачыя не могуць займацца грамадска-палітычнай дзейнасцю ў службовы час. Міністэрства абароны настойвала на тым, каб словы «ў службовы час» былі ўвогуле выкрасленыя з закона — і тады, запэўніваў Казлоўскі, «все эти вопросы в армии будут сняты».

Казлоўскі гарантаваў, што гэта закране чальцоў любых грамадска-палітычных арганізацый, у тым ліку і Славянскага Сабора «Белая Русь» і іншых.

У выніку галасавання змены ў законы былі ўнесеныя: гэта падтрымалі 226 дэпутатаў (галасавалі ўсяго 232) пры кворуме ў 173 чалавекі. А ўжо 7 мая 1993 года Статкевіч быў звольнены з Узброеных Сілаў з ганебнай фармулёўкай: дыскрэдытацыя высокага звання афіцэра.

## Шаноўнае трыа

26 сакавіка 1993 года па пытанні аб эканамічнай сітуацыі ў Беларусі, стане і развіцці эканамічных адносін з краінамі СНД з дакладамі выступілі Станіслаў Шушкевіч, Вячаслаў Кебіч і старшыня праўлення Нацбанка Станіслаў Багданкевіч.

Шушкевіч у цэлым выказаўся на карысць СНД, аднак паставіў пад сумнеў мэтазгоднасць уваходжання Беларусі ў ваенна-палітычныя саюзы, г.зн. у сістэму калектыўнай бяспекі. Лейтматывам у прамове Кебіча было ўмацаванне эканамічных адносінаў не з Захадам, а з рэспублікамі былога СССР. Багданкевіч выказаўся за лібералізацыю цэнаў, за лібералізацыю гандлю — перш за ўсё з Расіяй.

Аднак гэтыя даклады выклікалі жорсткую крытыку многіх дэпутатаў (удзельнічаць у спрэчках выказаў жаданне акно 51 дэпутат), якія заявілі, што пасля дакладаў пытанняў узнікла яшчэ больш, чым было. Ганчар назваў гэтыя даклады «политической несостоятельностью», а Лукашэнка заклікаў прызнаць працу Шушкевіча і Кебіча па стабілізацыі эканамічнай сітуацыі ў краіне нездавальняючай.

Зянона Пазьняк, наадварот, ва ўсіх грахах абвінавачваў Кебіча і нежаданне яго ўрада праводзіць рэформы. Па словах Пазьняка, Кебіч вычарпаў усе свае ідэі і магчымасць паправіць становішча ў рэспубліцы. Таму, лічыў Пазьняк, трэба пазбавіць Кебіча пасады і такім чынам сысці з мёртвай кропкі.

## «14 пунктаў» Алега Трусава



**Народны дэпутат Алег Трусаў на пасяджэнні нечарговай адзінаццатай сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі 12 склікання.** Крыніца: Народная газета, сакавік, 1993

30 сакавіка 1993 года народны дэпутат Алег Трусаў прапанаваў абраць новага старшыню Савета Міністраў, каб той тэрмінова ажыццявіў 14 захадаў, якія дапамаглі б стабілізаваць становішча ў краіне:

1) змена цэнаў на прадукты харчавання ў Беларусі ў бок павышэння ў параўнанні з Расіяй;
2) прадастаўленне да 18 мая 1993 года Вярхоўнаму Савету з боку Савета Міністраў канкрэтных прапаноў па інтэнсіўным назапашванні капіталу, нацыянальных і замежных інвестыцый;
3) увядзенне закона аб дэкларацыі даходаў для тых, хто ўдзельнічае ў прыватызацыі, набыцці дарагіх машын і інш.;
4) увядзенне ўласнай валюты;
5) увядзенне льготных ліцэнзій для ўсіх фірм краін СНД, якія ўвозяць у Беларусь сыравіну;
6) увядзенне поўнай галоснасці ў выдаткоўванні замежнай валюты;
7) выдзяленне кожнаму жадаючаму грамадзяніну да 1 мая 1993 года 10 сотак зямлі;
8) увядзенне на два гады мараторыя на будаўніцтва лецішчаў і катэджаў для тых, хто мае дзяржаўныя кватэры;
9) зніжэнне на 30% падаткаў для тых прадпрыемстваў, якія выпрабляюць канкурэнтаздольную прадукцыю і могуць яе экспартаваць;
10) тэрміновае адкрыццё беларускіх амбасадаў у Прыбалтыцы, Кіеве, Браціславе, Сафіі, Празе і Будапешце;
11) увядзенне візавага рэжыму для ўсіх грамадзян Расіі — выхадцаў з Каўказа і Закаўказзя;
12) вывад да канца 1993 года з Беларусі расійскіх войскаў;
13) узмацненне эканамічных адносінаў Беларусі з асобнымі рэгіёнамі Расіі: Карэліяй, Татарстанам, Башкірыяй, Якуціяй, Санкт-Пецярбургам і «Ніжагародскай губерняй»;
14) перамовы з Украінай і Латвіяй аб будаўніцтве Балта-Чарнаморскага нафтавага калектара і інш.

## Калектыўная небяспека

Бадай, адным з самых дыскусійных на нечарговай адзінаццатай сесіі стала пытанне аб так званай калектыўнай бяспецы, а менавіта: далучэнне Беларусі да адпаведнага Дагавора, які быў падпісаны 15 мая 1992 года ў Ташкенце. Далучэнне для Беларусі было больш фармальным: на самай справе, гэта азначала ваенны саюз з Расіяй і павышала рызыку ўдзелу беларускіх вайскоўцаў у «гарачых кропках».

Пачынаючы з 6 красавіка 1993 года пракамуністычная большасць Вярхоўнага Савета пачала актыўнае лабіяванне гэтага пытання. Адзін за адным у падтрымку калектыўнай бяспекі выступалі праўладныя дэпутаты Вярхоўнага Савета (Леанід Прывалаў, Валерый Паўлаў, Генадзь Казлоў і інш.), так і высокія дзяржаўныя чыноўнікі (міністр абароны Павел Казлоўскі, міністр замежных спраў Пётр Краўчанка, старшыня КДБ Эдуард Шыркоўскі і інш.).

У адказ Станіслаў Шушкевіч, які абвясціў сябе праціўнікам калектыўнай бяспекі, заявіў 9 красавіка 1993 года пра магчымасць правядзення ў маі 1993 года рэферэндуму па пытанні: «Ці падтрымліваеце вы дзяржаўны нейтралітэт Беларусі, які прадугледжвае адмову ад ваенна-палітычных саюзаў з іншымі краінамі і іх аб'яднаннямі?». Шушкевіч тут жа заявіў, калі на рэферэндуме народ скажа «так», то ён падасць у адстаўку.

9 красавіка 1993 года большасцю галасоў («за» — 192, «супраць» — 35) Вярхоўны Савет прыняў пастанову «Аб дакладзе старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Шушкевіча С.С. аб становішчы рэспублікі і аб важных пытаннях яе ўнутрыпалітычнай і знешнепалітычнай дзейнасці», якая складалася з шасці пунктаў. Пункт чацвёрты пастановы ўскладаў на Станіслава Шушкевіча абавязак пацвердзіць далучэнне Беларусі да Дагавора аб калектыўнай бяспецы. Ён, праўда, змяшчаў агаворку пры далучэнні Беларусі да Ташкенцкага дагавора: выкарыстанне Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, размяшчэнне і прымяненне Узброеных Сілаў іншых дзяржаў на тэрыторыі Беларусі былі магчымыя толькі з дазволу Вярхоўнага Савета Беларусі.

У пункце пятым пастановы ішла гаворка пра тое, што пытанне аб рэферэндуме па калектыўнай бяспецы будзе ўключана ў парадак дня чарговай наступнай сесіі.

Праўрадавым дэпутатам у Вярхоўным Савеце ўдалося дамагчыся, каб пастанова прымалася не двума трацінамі галасоў, а простай большасцю, што істотна палегчыла яе зацвярджэнне. На гэты конт мелася адпаведнае заключэнне камісіі па заканадаўстве. Пазняк абвінаваціў Шушкевіча ў тым, што ён дазваляе змяненне сутнасці Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце ад 27 ліпеня 1990 года. Сяргей Папкоў заявіў, што апазіцыя ў такім выпадку мае права на скліканне альтэрнатыўнага ўстаноўчага сходу Беларусі.

Нечарговая адзінаццатая сесія Вярхоўнага Савета стала паказальнай у многіх адносінах. Яна засведчыла здольнасць тагачасных беларускіх парламентарыяў эфектыўна абмяркоўваць важныя дзяржаўныя пытанні ў фармаце сапраўдных дыскусій. Сённяшнім народным абраннікам варта гэтаму павучыцца. У той жа час сесія сведчыла пра наяўнасць палітычных праблемаў, якія ўнослі напружанасць у грамадства і патрабавалі хутчэйшага вырашэння.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТУРКМЕНІСТАН. Выбары з будучыні

У Туркменістане 25 сакавіка адбыліся парламенцкія выбары, якія дакладна трапяць у аналы гісторыі. Справа не ў выніках галасавання, што ад пачатку былі прадказальныя – усе месцы ў новым Меджылісе атрымалі кандыдаты ад праўладных партый.

Фішка ў тым, што туркменскія дзяржаўныя тэлеканалы пачалі здымаць відэарэпартажы пра парламенцкія выбары ў краіне за два тыдні да пачатку галасавання.

25 сакавіка тыя здымкі былі паказаныя ў якасці матэрыялу, што нібыта знялі ў дзень выбараў. Паводле словаў сведак, здымкі адбываліся наступным чынам: «Сабралі групу бюджэтных работнікаў і падрыхтавалі рэпартажы з выбарчых участкаў. Людзі, запрошаныя для правядзення галасавання, самі запоўнілі бюлетэні. А потым перад камерамі распавядалі, колькі працэнтаў выбаршчыкаў прыйшло». Спробы журналістаў узяць каментар наконт незвычайных пастановачных сцэнаў поспеху не мелі. Адказная асоба выбарчай камісіі абмежавалася сцвярджэннем, што гэтыя звесткі «лжывыя», а «ўсё праводзіцца ў адпаведнасці з законам, кодэксам і Канстытуцыяй».

**Паводле туркменскай прэсы**

### ЕГІПЕТ. Як вызначыць апазіцыянера

Егіпецкія ўлады прыдумалі, як вызначаць незадаволеных рэжымам суайчыннікаў. Не так даўно ў сеціве з'явілася аналагічная Facebook сацыяльная сетка EgyptFace, што стала сапраўднай інфармацыйнай бомбай. Яе шматлікія ўдзельнікі крытыкавалі існуючыя ў Егіпце парадкі. Не дзіўна, што шмат егіпцян пасняшаліся зарэгістравацца ў EgyptFace. І вось днямі стала вядома, што за згаданым праектам стаяць спецслужбы. За кошт EgyptFace спецслужбы намагаліся маніторыць думкі нелаяльных грамадзян. Як толькі гэта стала вядома, шмат хто адмовіўся ад сваіх акаўнтаў. Праўда, на гэтым гісторыя наўрад ці скончыцца. Адзін са спікераў адміністрацыі прэзідэнта даў зразумець, што Егіпет можа пайсці шляхам Кітаю, дзе Twitter, Facebook, Google і YouTube заблакаваныя. Кітайцам у якасці кампенсацыі прапануюць камунікаваць праз сеткі, якія падкантрольныя адпаведным сілавым органам. Каір збіраецца імпартаваць кітайскі вопыт, калі егіпцянам будзе дазволена камунікаваць выключна праз EgyptFace.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ЗША. Колькасць штатаў павялічыцца?

Як вядома, цяпер ЗША складаюцца з 50 штатаў, што далёка не адпавядае настроям на месцах. Шмат разоў частка насельніцтва рэгіёна таго ці іншага штату хацела стварыць свой, асобны штат. У якасці прыкладу можна ўзгадаць праект штату, дзе будуць жыць выключна індзейцы, які існаваў напачатку мінулага года. Праўда, апошні раз стварыць свой штат удалося жыхарам Заходняй Вірджыніі, якія ў 1862-м выйшлі са штату Вірджынія. Магчыма, сітуацыя зменіцца пасля таго, як на мінулым тыдні была агучаная ідэя стварэння штату Новая Каліфорнія, які павінен паўстаць на частцы цяперашняй Каліфорніі. Ідэя выклікала вялікі рэзананс у амерыканскім грамадстве. Усё праз тое, што новы штат будзе ўключаць самую заможную частку Каліфорніі – у тым ліку такія гарады, як Сан-Францыска і Лос-Анжэлес. Іх жыхары сапраўды даўно задаюцца пытаннем: з якой нагоды іх падаткі ідуць на падтрымку беднай каліфарнійскай глыбінкі? З улікам таго, што ў тым жа Сан-Францыска і Лос-Анжэлесе жывуць вельмі багатыя людзі, аўтары праекты Новай Каліфорніі могуць знайсці рэсурсы пад сваю ініцыятыву.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### ЛІТВА. Ці плаціць за «Акт пра незалежнасць»?

Літва толькі-толькі адзначыла стогадовы юбілей незалежнасці, як выбухнуў скандал. Прафесар Людас Мажыліс абурыўся тым, што за магчымасць убачыць арыгінал «Акту пра незалежнасць Літвы» трэба плаціць грошы. Кожны, хто хоча пабачыць рэліквію, павінен заплаціць чатыры еўра. Напэўна, не толькі прафесар, але і шмат літоўцаў супраць такой практыкі, але Людас Мажыліс – асаблівая фігура. Менавіта ён знайшоў арыгінал акта, які лічыўся згубленым з 1940 года, у дыпламатычным архіве Германіі ў сакавіку 2017-га. У студзені 2018 года Германія перадала Літве дакумент у карыстанне тэрмінам на пяць гадоў. Падаецца, што за гэтыя пяць гадоў Вільнюс збіраецца някепска зарабіць на атракцыёне з актам. Самі ўлады тлумачаць увядзенне платы за прагляд «Акта пра незалежнасць Літвы» праблемамі бяспекі. Маўляў, для таго, каб дакумент не скралі, патрэбная ахова, якой, адпаведна, трэба добра плаціць. У сваю чаргу, Людас Мажыліс лічыць, што ў Літве хапае патрыётаў, якія могуць бясплатна ахоўваць сакральны для іх дакумент.

**Паводле літоўскай прэсы**

# Хрыстос пакідае Еўропу?

*Алег НОВІКАЎ*

**Еўропа шакаваная вынікамі даследавання наконт стаўлення моладзі да рэлігіі. Калі яму верыць, хрысціянству ў Еўропе засталося існаваць не больш за сто гадоў.**



Фота www.toseeunvisible.ru

Прыкладна праз 20 гадоў у Брытаніі можа памерці апошні хрысціянскі вернік. Гэта не першакрасавіцкі жарт. Такая перспектыва цалкам рэальна праглядаецца ў дадзеных лонданскага інстытуту Святой Марыі. Гэтая ўстанова правяла даследаванне Europe's Young Adults and Religion наконт стаўлення маладых еўрапейцаў (16–29 гадоў) да рэлігіі. Агульнае рэзюмэ: маладым людзям у Еўропе не цікавая рэлігія, і перш за ўсё — вучэнне Хрыста.

Праўда, гэтыя лічбы ў кожнай краіне розныя. Найбольш зацятыя юныя атэісты пражываюць цяпер у Чэхіі: 91 працэнт маладых чэхаў цалкам абыякавыя для царкоўнай тэматыкі. 70 працэнтаў моладзі ў Чэхіі ніколі не прысутнічалі на нейкіх царкоўных мерапрыемствах і набажэнствах. Другая па такіх лічбах — Эстонія з 85 працэнтамі атэістаў.

Недалёка ад Чэхіі і Эстоніі знаходзяцца Іспанія, Бельгія, Вялікабрытанія, Нідэрланды, дзе ніколі не маліліся каля 60 працэнтаў маладых грамадзян. Прычым назіраецца рост агрэсіўных антыцаркоўных настрояў. Напрыклад, 42 працэнты апытаных брытанцаў увогуле лічаць дзейнасць царквы негатывам для грамадства.

Агульную сумную статыстыку трошкі выратоўвае Усходняя Еўропа. Так, у Польшчы царкву наведваюць да 83 працэнтаў юных палякаў. Трошкі менш маладых вернікаў у Літве — пад 75 працэнтаў. Прыкладна такія ж лічбы зафіксаваны ў Венгрыі. Аднак і тут назіраюцца адмоўныя для царквы трэнды. Нават у Венгрыі або Літве не больш за пяць працэнтаў ад усёй мясцовай моладзі рэгулярна наведвае нядзельныя службы.

«Хрысціянства памірае», — такімі словамі рэзюмаваў даследаванне адзін з яго кіраўнікоў. Навуковец таксама дадаў: «Тыя, хто працягваюць вызнаваць хрысціянства, плывуць супраць плыні». Ён жа дае еўрапейскаму хрысціянству як масавай рэлігіі не больш за сто гадоў існавання.




Ці сапраўды ўсё так трагічна для хрысціянскіх вернікаў? Аптымісты кажуць, што не ўсё яшчэ згублена — у тым ліку дзякуючы мігрантам з Усходняй Еўропы, дзе, як мы бачым, хрысціянства захавала свой уплыў. Кожны пяты цяперашні каталік у Англіі ўжо паходзіць з усходнееўрапейскага рэгіёну. Акрамя таго, не адмаўляюцца ад хрысціянства мігранты з Афрыкі, колькасць якіх у Еўропе таксама стала расце.

На навіну пра заняпад хрысціянства ў Еўропе цікава адрэагавалі гісторыкі. З аднаго боку, яны лічаць гэтую з'яву цалкам лагічнай: апошнім часам мы былі сведкамі імклівай эрозіі традыцыйных каштоўнасцяў ва ўсіх сферах. Таму нічога незвычайнага ў выніках даследавання няма. Пра адмоўныя для царквы з'явы, дарэчы, рэгулярна кажа той жа Папа Рымскі.

З другога боку, гісторыкі нагадваюць, што на падобныя крызісы хрысціянства заўжды адказвала міграцыяй сваіх цэнтраў. Напрыклад, у свой час, пасля прыходу мусульман у Малую Азію, страціў статус цэнтру хрысціянства Канстанцінопаль. Аднак сінхронна калапсу эліністычнага хрысціянства паўсталі новыя рэлігійныя цэнтры ў Заходняй Еўропе і на Старажытнай Русі. У нашым выпадку, з развіццём крызісу хрысціянства ў ЕС пульс хрысціянскага жыцця будзе рухацца ў бок перыферыі — у Лацінскую Амерыку або Афрыку, дзе колькасць хрысціян дастаткова стабільная.

А вось палітычныя эксперты заклапочаныя не на жарт. Так ці інакш, хрысціянская традыцыя — гэта важны падмурак еўрапейскага адзінства. Акрамя таго, узнікае пагроза ментальнага расколу ў еўрапейскім аб'яднанні. Усходняя Еўропа, дзе царква працягвае адыгрываць важную ролю ў грамадстве, будзе ў плане каштоўнасцяў больш дыстанцыявацца ад Заходняй.

Таксама паўстае пытанне: якая рэлігія можа заняць вакантнае месца, што засталося ад хрысціянства? Адказ гучыць вельмі незвычайна. Як сведчыць статыстыка, чым менш у нейкай краіне ЕС хрысціян, тым менш там вернікаў любой рэлігіі.

Гэта добра ілюструе сітуацыя ў Вялікабрытаніі. Тут толькі 7 працэнтаў маладых людзей адносяць сябе да англіканскай царквы, і яшчэ 10 працэнтаў — да каталіцкай. Аднак сітуацыя сярод брытанскіх мусульман яшчэ горшая. Не больш за 6 працэнтаў з гэтага сегменту ходзяць у мячэць. Падобны расклад і ў Францыі, дзе толькі 10 працэнтаў маладых мусульман практыкуюць іслам. Увогуле, слабы інтарэс да рэлігіі — гэта не толькі еўрапейскі феномен. Тое ж самае назіраецца ў Японіі.

Іншымі словамі, паступовая эрозія хрысціянства не будзе азначаць абавязковы надыход новай рэлігіі або нейкай катастрофы. Еўрапейцы працягнуць жыць у спажывецкім свецкім грамадстве, нават не заўважыўшы, што зачыніўся нейкі храм. Праўда, самі еўрапейскія хрысціяне з такой будучыняй не згодныя. Вынікі даследавання выклікалі вялікую палеміку на старонках клерыкальнай прэсы. Аўтары публікацый заклікаюць хрысціян мабілізавацца і за кошт карпатлівай працы спыніць наступ побытавага атэізму.




# Ці зрыне Пуціна смех?

Алег НОВІКАЎ

**Напярэдадні 1 красавіка ў заходняй прэсе ўзгадалі, як гумар дапамог Захаду выйграць «халодную вайну», і заклікалі стварыць сатырычны антыпуцінскі фронт.**

Вынікі апошніх прэзідэнцкіх выбараў у Расіі выклікалі буйную дыскусію на старонках заходніх СМІ. Шмат удзельнікаў спрэчак пагаджаюцца з тэзісам пра тое, што агрэсіўная рыторыка на адрас Расіі не выклікае чаканага эфекту. Наадварот, у якасці рэакцыі назіраецца кансалідацыя расіян вакол рэжыму. Самі заходнія палітыкі, згодна з прынцыпам рыкашэту, становяцца ахвярамі сваіх жорсткіх «наездаў» на Маскву. У Брытаніі, напрыклад, цяпер папулярна жартаваць, што Крэмль нясе адказнасць за аўтамабільныя коркі на вуліцах.

Часопіс «The American Interest», які паспрабаваў адшукаць выхад з сітуацыі, звярнуў увагу на тое, што сучасныя заходнія медыя ігнаруюць гумар як важны сродак палітычнай барацьбы. Між тым, як адзначае тое ж выданне, у часы «халоднай вайны» да гумару ў заходніх сталіцах ставіліся больш сур'ёзна. Напрыклад, сярод абавязкаў супрацоўнікаў інфармацыйнай службы, што працавалі пры дыпламатычных установах ЗША ў СССР, значыўся збор анекдотаў. Усе сабраныя дыпламатамі байкі пра Чапаева, Штырліца, чукчаў і гэтак далей пасля дасылаліся ў цэнтральны офіс у Вашынгтоне, дзе іх аналізавалі спецыялісты.

Падчас працы над матэрыялам асаблівая ўвага надавалася анекдотам пра неэфектыўнасць савецкай эканамічнай мадэлі. Таксама каціраваліся байкі, якія даводзілі скептыцызм насельніцтва наконт хуткага прыходу камунізму. Выбраныя анекдоты апрацоўваліся, выдаваліся ў межах асобнай анталогіі і распаўсюджваліся ў сусветных СМІ. Журналісты ахвотна прыводзілі апублікаваныя ў зборніку анекдоты падчас агляду міжнародных навінаў.

Некаторыя з тых жартаў лічацца класікай. Напрыклад, вось якую аб'яву передавала BBC пасля падаўлення венгерскага паўстання ў 1956 годзе: «Савецкі ўрад прыме на працу прэм'ер-міністра Венгрыі. Кваліфікацыя — судзімасць і руская нацыянальнасць. Свой пункт гледжання і хрыбетнік не патрэбныя».

Кульмінацыя выкарыстання гумару супраць СССР прыйшлася на часы адміністрацыі Рэйгана. З улікам яго акцёрскага бэкграўнду гэта, напэўна, не дзіўна. Акрамя таго, ён навучыўся вельмі добра выкарыстоўваць палітычныя жарты на пасадзе губернатара Каліфорніі.

Узгадалі сёння на Захадзе і спадчыну «Аранжавай альтэрнатывы» («Pomarańczowa Alternatywa» — блізкая да анархістаў групоўка артыстаў, якая дзейнічала ў некалькіх гарадах Польшчы ў 1980-х гадах). Групоўка праславілася на ўсю Польшчу сваімі вулічнымі акцыямі накшталт «Дапамажы міліцыянеру — збівай сябе сам!». Лаяльныя на першы погляд лозунгі артыстаў ставілі ўлады ў тупік. Сапраўды, за што, напрыклад, можна арыштаваць чалавека, які дзеліцца з людзьмі на вуліцах дэфіцытнай у той час туалетнай паперай? Міліцыянты не адразу разумелі, што лепшай дыскрэдытацыі сістэмы цяжка прыдумаць.

Пакуль сілавікі тармазілі, да артыстаў далучаліся простыя мінакі, што дазваляла збіраць да некалькіх тысяч чалавек — ва ўмовах рэжыму вайсковага становішча колькасць маніфестантаў папросту фантастычная. Кульмінацыйным пунктам гісторыі «Аранжавай альтэрнатывы» быў «Марш гномаў» 1 чэрвеня 1988 года, калі на вуліцы Вроцлава выйшлі некалькі тысяч чалавек, апрануты у аранжавыя капялюшыкі гномаў.

Пасля калапсу СССР пра гэты досвед сатырычнай вайны забыліся. Тых жа спецыялістаў, што маніторылі савецкія анекдоты, звольнілі. Аднак сёння, як піша прэса, ёсць патрэба адрадзіць тое ведамства. «Гумар сёння мае тыя ж перавагі, як гэта было падчас «халоднай вайны». Жарты могуць стаць часткай папулярнай культуры, якая абяззбройвае прапагандыстаў. Жарты могуць стварыць адчуванне агульнага вопыту, які, у сваю чаргу, дапамагае пераадолець адчужэнне, створанае дэзінфармацыяй», — адзначае «The American Interest».

Праўда, ёсць думка, што ствараць сатырычны фронт супраць Крамля занадта позна. Так склалася, што фігура Пуціна была ў свой час запатрабаваная заходнімі сатырыкамі для таго, каб смяяцца з недахопаў сваёй эліты. У шматлікіх карыкатурах або скетчах на тэлебачанні Пуцін выглядае дурным, аднак крутым хлопцам, які здзекуецца са слабых амерыканскіх палітыкаў, адданых старым дэмакратычным забабонам.

Акрамя таго, змяніліся правілы інфармацыйнай вайны. У часы «халоднай вайны» гэта была барацьба паміж дзяржавамі, якія намагаліся рацыянальна давесці сваю перавагу, або даводзілі праз гумар ірацыянальнасць аргументаў праціўніка. Сёння як у Расіі, так і ў ЗША вялікая колькасць насельніцтва страціла інтарэс да факталагічнага абгрунтавання пераваг таго ці іншага палітыка або дзяржаўнай мадэлі. Наадварот, гэты сегмент грамадзян атрымлівае задавальненне, што адмаўляецца ад любога дыскурсу, заснаванага на рацыянальных доказах. Адным словам, калі сатырычны фронт супраць Пуціна і паўстане зноў, гэта павінна быць нешта абсалютна новае.




Фота www.hronika.info

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Марк Цукерберг

Буйны скандал вакол Facebook, калі піяр-кампаніі атрымалі персанальныя дадзеныя карыстальнікаў сацыяльнай сеткі, выклікаў шмат спекуляцый наконт палітычнай кар'еры Цукерберга.

Шмат хто разглядаў яго ў якасці аднаго з удзельнікаў, і нават фаварыта, прэзідэнцкай кампаніі ў ЗША ў 2020 годзе. Праз скандал імідж Цукерберга значна пагоршыўся. З чалавека, які яшчэ ўчора выглядаў апосталам інфармацыйнай будучыні, ён ператварыўся ў нядобрасумленнага бізнесоўца, запэцканага ў брудных выбарчых маніпуляцыях.

Сітуацыя для Марка Цукерберга выглядае яшчэ горш з улікам таго, што маніпуляцыі з дадзенымі карыстальнікаў Facebook гралі на карысць кандыдата Дональда Трампа. Між тым, якраз Трамп — «анфан тэрыбль» у вачах прагрэсіўных амерыканцаў, на галасы якіх мог разлічваць Цукерберг. У дадатак скандал можа набыць доўгатэрміновы характар, паколькі некаторыя кангрэсмены ўжо заклікалі стварыць следчую камісію наконт маніпуляцыяў у сацыяльных сетках падчас выбараў 2016-га. Праца гэтай камісіі можа зацягнуцца аж да 2020-га, што, відавочна, створыць шмат праблемаў для выбарчага штабу Цукерберга.

Праўда, іншыя каментатары кажуць, што ўладальнік Facebook у любым разе працягне падрыхтоўку да балаціроўкі на пасаду прэзідэнта. Цяпер у яе ўкладзена ўжо вельмі шмат сродкаў. У дадатак, нягледзячы на скандал, Цукерберг дасюль выглядае найбольш перспектыўным апанентам Трампа.



### Юлія Цімашэнка

На думку шматлікіх экспертаў, Цімашэнка, якая мае самы лепшы рэйтынг сярод патэнцыйных кандыдатаў на прэзідэнцкіх выбарах 2019 года, можа быць у любы час арыштаваная як фігурант «справы Саўчанка».

Нагадаем, што апошняя затрыманая за падрыхтоўку дзяржаўнага перавароту і замаху на Парашэнку. Пры гэтым сама Саўчанка доўгі час была сябрам фракцыі Цімашэнка. Акрамя таго, падчас інтэрв'ю Саўчанка — выпадкова або не — праінфармавала пра кантакты Цімашэнка з лідарамі данецкіх сепаратыстаў. Усё гэта спакушае Парашэнку пазбавіцца асноўнага канкурэнта — прыцягнуць яго да справы пра замах.

Праўда, як лічаць эксперты, такі план можа мець непрадказальныя наступствы. Парашэнку з рэйтынгам каля 6 працэнтаў і так практычна немагчыма абрацца на другі тэрмін. І тыя 6 працэнтаў — яшчэ някепска. Паводле сацыёлагаў, папулярнасць Парашэнкі штомесяц падае на адзін працэнт. Мяркуючы па ўсім, сваю справу зрабіў студзеньскі скандал з паездкай прэзідэнта на Мальдзівы за паўмільёна долараў плюс далейшае пагаршэнне сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў краіне. Зачыстка апазіцыі яшчэ больш ускладніць задачу пераабрання, паколькі ўкраінцы традыцыйна спачуваюць ахвярам рэпрэсій.



### Эдуар Філіп

У Парыжы 26 сакавіка пад кіраўніцтвам прэм'ер-міністра Францыі пачала працаваць камісія, якая павінна вызначыць фармулёўку пытання на рэферэндуме, што адбудзецца ў Новай Каледоніі — французскай залежнай тэрыторыі ў Ціхім акіяне.

У 1998 годзе, пасля этнічных беспарадкаў на архіпелагу, урад Францыі паабяцаў мясцовым жыхарам правесці рэферэндум наконт «поўнага суверэнітэту». 19 сакавіка ў французскім парламенце была абвешчана яго дата — 4 лістапада 2018 года.

Аднак адразу паўстала пытанне: што азначае «поўны суверэнітэт»? Прадстаўнікі партый канакаў — мясцовых абарыгенаў — кажуць, што «поўны суверэнітэт» павінен азначаць увядзенне канакскага грамадзянства і перадачы ўсёй улады мясцовай адміністрацыі. Праўда, пра поўную незалежнасць пакуль гаворкі няма. Канакі гатовыя абмежавацца статусам дзяржавы, якая лічыць сябе «партнёрам Францыі».

Прафранцузскія партыі ў Новай Каледоніі лічаць, што тэрмін «поўны суверэнітэт» павінен толькі пачаць дыялог з Парыжам пра новую ступень аўтаноміі і дэкаланізацыі. У іншым разе, па іх словах, ёсць рызыка таго, што Новая Каледонія праз энтузіязм незалежнікаў паглыбіцца ў сапраўдны хаос.

Пагрозу беспарадкаў пасля рэферэндуму, на якім у канакаў вялікія шанцы на перамогу, прызнае і сам Эдуар Філіп. Але пакуль не зразумела, як павінен гучаць кампрамісны варыянт трактоўкі азначэння «поўны суверэнітэт».

# КПЗБ: героі, тэрарысты ці



Алесь КІРКЕВІЧ

**Час-почас мы вяртаемся да падзеяў 17 верасня 1939 года, нехта ставіцца да іх прыхільна, іншыя — катэгарычна адмоўна. Пры гэтым для абодвух бакоў незаўважным застаецца адзін з фактараў, без якога «39-ы год» для нас так і застанецца незразумелым: феномен Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі.**

Апошні раз «аб'яднанне Усходняй і Заходняй Беларусяў» на дзяржаўным узроўні адзначалі ў 1999 годзе. Тады па крамах ды дзяржустановах былі развешаныя копіі знакамітага плаката мастака Карэцкага, на якім вясковец абдымае і цалуе чырвонаармейца. Адно, што цытата Сталіна з арыгіналу была замененая радкамі Купалы: «Ты з Усходняй, я з Усходняй нашай Беларусі. Больш з табою ўжо ніколі я не разлучуся...» Ужо ў 2009-м нічога падобнага не было.

Выглядае, што 1939 год як вяха ў нашай гісторыі нават для дзяржаўнай ідэалогіі наўпрост не існуе. Тым больш, не існуюць асобы, для якіх «39-ты» стаўся галоўнай падзеяй усяго жыцця — радыкалы з-пад Слоніма ці Карэлічаў, чальцы Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Парадаксальна, але пра іх сёння памятаюць адно польскія гісторыкі, якія за апошнія 20 гадоў вынеслі адназначны вердыкт: «Гэта бальшавіцкія дыверсанты і шпіёны». Беларускім жа гісторыкам, а тым болей грамадству, да гэтых людзей няма справы.

Але без разумення псіхалогіі «капэзэбоўцаў» мы рызыкуем наогул не зразумець гісторыі беларускага руху пачатку ХХ стагоддзя. Больш таго, КПЗБ уяўляла сабой цэлы пласт грамадства. Пласт цікавы, арыгінальны і важны, які ў іншых умовах акурат і вёў нацыю шляхам зменаў і здабыцця незалежнасці.

### Страчанае пакаленне

Чаму тагачасная Заходняя Беларусі была неспакойнай? Чаму тут быў запатрабаваны радыкалізм? У міжваенны час тутэйшая вёска дайшла да мяжы свайго росту: людзей усё болей, зямлі ўсё меней. Вялікія землеўладанні так і заставаліся за памешчыкамі, касцёлам ды царквою. Канешне, можна было паехаць у горад, але заходнебеларускія гарады — невялічкія. Прамысловасць развітая слаба, а гарады традыцыйна перанаселеныя яўрэйскім людам.

Яшчэ адзін феномен — гэта прорва паміж селянінам з зямлёй і без зямлі. Апошні не памёр бы з голаду, бо мог пайсці ў парабкі і зарабляць часам нават больш, добра апранацца, адкладаць грошы. Пры гэтым сацыяльны статус мужыка з зямлёй, нават апошняга прапойцы, надалей заставаўся вышэйшым. Атрымліваецца замкнёнае кола: ты хочаш і можаш працаваць, але не можаш набыць зямлю, збудаваць дом, стварыць сям'ю.

Яшчэ адзін фактар тычыцца моладзі, якая пабывала ў бежанстве ў Расіі падчас Першай сусветнай вайны. Адтуль пакаленне, народжанае паміж 1900 і 1910, вынесла не толькі ўспаміны пра голад і рэвалюцыю, але яшчэ і разуменне сваёй інакшасці. Яны прыязджалі туды, кажучы: «Мы рускія», але мясцовыя чамусьці пярэчылі: «Якія вы рускія, калі па-руску нават размаўляць не ўмееце?..» Гэта быў культурны шок, які ўклаўся пасля ва ўмацаванне нацыянальнай свядомасці.

Вярнуўшыся з бежанства дадому, пабачыўшы рускую рэвалюцыю, яны зразумелі, што тут, дома, змяніць нічога немажліва: польская ўлада ўжо ўмацавалася. У іншых умовах, пры наяўнасці адукацыі і сацыяльных калідораў, больш шырокай нацыянальнай працы, гэтае пасіянарнае пакаленне, верагодна, умацавала б шэрагі радыкальных нацыяналістычных арганізацыяў. Але так склалася, што рэй трымалі камуністы...



Карыкатура на польскі строй у міжваеннай беларускай газеце: «Вось як выглядае фашыстоўская польская акупацыя. Прэч акупантаў! Няхай жыве права Заходняй Беларусі на самавызначэнне да аддзялення!»

Калі праводзіць паралелі з суседзямі, то найбольш падобная сітуацыя склалася на Валыні, дзе ўсё развівалася аналагічным чынам. Моцныя пазіцыі там мела акурат КПЗУ. А вось на Галічыне, дзе ўсё было па-іншаму, нацыяналістычная АУН. Яшчэ адзін малавядомы факт: пэўная частка прыхільнікаў Заходне-Украінскай Народнай Рэспублікі (ЗУНР) пасля ўгоды паміж Пятлюрам і Пілсудскім запісалася... у Чырвоную Армію, бо палічыла гэта здрадай. Некаторыя з іх пасля знайшлі сябе ў КПЗУ. Вось такія скрыжаванні лёсаў ды ідэяў.

**Радыкалізм заходнебеларускай вёскі быў выгадны ўсім. Бальшавікі сфармавалі з гэтага пакалення свой ударны атрад, а палякі атрымалі жалезны аргумент для рэпрэсіяў і ўзмацнення пазіцыяў сілавікоў. Усім добра, апроч саміх беларусаў...**

### «Паўстанне — вайна — аб'яднанне з БССР»

Як не дзіўна, радыкалізм заходнебеларускай вёскі быў выгадны ўсім. Бальшавікі сфармавалі з гэтага пакалення свой ударны атрад, а палякі атрымалі жалезны аргумент для рэпрэсіяў і ўзмацнення пазіцыяў сілавікоў. Усім добра, апроч саміх беларусаў... Спынімся на тэме «ўдарнага атраду»: фармальна і КПЗБ, і КПЗУ былі структурамі адзінай Кампартыі Польшчы (КПП), якая ўваходзіла ў Камінтэрн. Але калі звярнуцца да лічбаў, то прыкладна палова «польскіх камуністаў» былі чальцамі КПЗБ, трацінa — непасрэдна КПП, рэшта — КПЗУ.

Сама КПП стваралася ў 1918–1919 гадах. Беларускія ж камуністы спачатку гуртаваліся вакол Беларускай Рэвалюцыйнай Арганізацыі (БРА) — структуры, якая выкрышталізавалася з беларускіх эсэраў. Фактычна гэта была радыкальная сялянская арганізацыя. У 1923-м БРА злучылася з пераважна яўрэйскімі камуністычнымі ячэйкамі ў гарадах, так паўстала КПЗБ. У наступным 1924 годзе сюды з БССР «на ўзмацненне» дасылалі Міхала Гурына, Веру Харужую ды іншых з мэтай падрыхтоўкі паўстання...

**Калі ў сярэдзіне 1920-х гадоў КПЗБ яшчэ рыхтавалася да паўстання, збіраючы зброю ды арганізоўваючы падпольную сетку, на працягу наступных гадоў уся дзейнасць звялася наўпрост да агітацыі ды індывідуальнага тэрору, скіраванага на паліцыянтаў і правакатараў**

На пачатку ўсё было проста: Гурын прынёс з СССР «добрую вестку» пра «хуткае і немінучае паўстанне». Схема простая: паўстанне — вайна Польшчы з СССР — аб'яднанне з БССР — шчасце ўсім і кожнаму... Гурын сапраўды рыхтаваў паўстанне, ячэйкі, сеткі, схроны са зброяй, але ў самім Саюзе планы змяніліся: ваяваць было пакуль нематэзгодна. Ішоў 1925 год, Сталін патроху браў уладу ў СССР і адсоўваў радыкалаў накшталт Троцкага.

Сталіну патрэбная была не вайна з капіталістамі, а поўная ўлада ў «краіне Саветаў». Так «капэзэбоўцаў» «кінулі» ўпершыню, каб пасля «кідаць» яшчэ шмат разоў. Так радыкальныя маладыя беларусы са сваімі марамі на бліжэйшыя 15 гадоў фактычна сталі «гарматным мясам», якое пастаянна ішло ў бой і гінула ў польскіх турмах, а пасля і ў сталінскіх лагерах...

### Ад «беларускай IRA» да секты...

У тым жа 1925 годзе пры падтрымцы СССР паўстала «Грамада» — шырокі левы сялянскі рух, які ў лепшыя часы дасягнуў ажно 120 000 сяброў. Нечым падобная схема нагадвае расклад у Паўночнай Ірландыі часоў супрацьстаяння з Лонданам: ёсць радыкальная падпольная IRA (у нашым выпадку — КПЗБ), а ёсць — больш шырокі легальны «Шынфейн» («Грамада»).

Але і тут у Масквы былі падрыхтаваныя чарговыя сюрпрызы. Бліжэй 1930 года Саюз бярэ на ўзбраенне канцэпцыю «сацыял-фашызму». Гэта значыць, што для сусветнага камунізму большую пагрозу ўяўляюць нават не буржуазныя партыі, а... сацыял-дэмакраты. Простымі словамі — усе левыя, правейшыя за камуністаў, горшыя за фашыстаў. Пазней гісторыкі прыйдуць да высновы, што менавіта гэтае рашэнне дазволіла Гітлеру прыйсці да ўлады, бо калі б нямецкія сацыял-дэмакраты, камуністы і хадэкі трымаліся разам, адзіным блокам, у таго наўпрост не было б шансаў атрымаць дэмакратычную большасць у рэйхстагу.



Арыштаваная група «капэзэбоўцаў» — была практыка фатаграфаваць адразу ўсю арыштаваную групу

# апакаліптычная «секта»?

Сталіну больш не патрэбная была сусветная рэвалюцыя, камунізм ён вырашыў будаваць у асобна ўзятай краіне, якая магла адно пашыраць свае межы за кошт іншых. Калі СССР раней разглядаўся як галоўны плацдарм Камінтэрну для распаўсюду сусветнай рэвалюцыі, зараз усё перакруцілася з ног на галаву. Камінтэрнператварыўся ў інструмент СССР па дэстабілізацыі сітуацыі ў іншых краінах.

Для беларусаў гэта выявілася ў дзейнасці сялянска-работніцкага клубу «Змаганне», які ўжо амаль кожны крок адлічваў па ўказцы з Масквы, кляйміў «здраднікаў» Луцкевіча ды Станкевіча, збіраў грошы на галадаючых Шанхая і г.д. Такім чынам рух не толькі перасварыўся з рэштай беларускіх дзеячаў з абоймы пост-БНР, але і страціў сацыяльную базу. Па вялікім рахунку — стаў сектай.

Пісьменнік і камсамолец тых гадоў Аляксей Карпюк апісваў гэта так: збіраліся ў хаце мужыкі і слухалі, як нехта зачытваў пастанову нейкага там пятага з'езду чаго-небудзь, перапраўленую з Мінску. І гэтыя дзядзькі, якія не дужа і чытаць умелі, слухалі казкі пра сонечнае жыццё ў БССР, дзе кожная калгасніца можа набыць сабе ўсё, што захоча, і нават болей, пра хуткую рэвалюцыю ды светлае заўтра. Так рух набываў класічныя рысы секты, чальцы якой чакаюць хуткага канца свету — у дадзеным выпадку, канца панскай Польшчы, «цяжкага сну», як пісаў той самы Карпюк.

Паколькі «секта» працавала ў агрэсіўным серадовішчы, яна хутка напаўнялася агентамі, усё гэта спараджала ўзаемны недавер. Паляки гэтай сітуацыяй цудоўна карысталіся. Скажам, арыштоўвалі нейкага лідара, самага разумнага і смелага. Пасля, праз тыдзень-два, — усіх астатніх з ячэйкі. А ўжо пасля — выпускалі першага арыштаванага. Усё! Нярэдка гэта заканчвалася забойствам лідара, якога свае ж залічвалі да правакатараў, альбо самазабойствам: хлопец наўпрост ішоў і тапіўся, бо не мог вынесці кляйма «здрадніка».

## Званы са слядамі ад куляў і калючы дрот у горле

КПЗБ — гэта не толькі ўлёткі (хоць нават за ўлётку тады давалі чатыры гады турмы), але і выступы ды сутычкі з польскай паліцыяй. Выступ у Косава, Крывіцкі расстрэл, Асташынскае паўстанне... Прыкладам, у 1929 годзе крывёю скончыўся традыцыйны жнівеньскі фэст, свята ўраджаю, у Алекшыцах. Туды прыехалі сябры пасольскага клубу «Змаганне», каб выступіць. Але ўлады расцанілі гэта як несанкцыянаваны мітынг, пачалі разгон са стралянінай паверх галоваў: званы алекшыцкай царквы дагэтуль маюць сляды ад куляў...

Мясцовыя хлопцы тады ўступілі ў бойку ды разагналі паліцыянтаў каламі і агло-


Дзеці, арыштаваныя польскай паліцыяй за «камуністычную прапаганду»


Вёска ў Заходняй Беларусі

блямі. Але пасля з Беластоку ў Гродна была перакінутая цэлая армія паліцыянтаў: тыя прайшлі ўсе навакольныя вёскі, арыштоўваючы і збіваючы маладзёнаў, — так выглядала карная акцыя. Некага арыштавалі, нехта збег у БССР, нехта, маючы пісталет, схаваўся ў лесе... Хлопцы, якія бралі ва ўсім гэтым удзел, адразу ж сталі героямі, пра іх складалі песні.

Падобная сітуацыя была тыповай у тыя гады для Заходняй Беларусі. Аналагічны сцэнар мог паўтарыцца ў выпадку прыходу секвестатараў (падаткавікоў). Калі чалавек не мог сплаціць падатку, у яго з падворку выграбалі літаральна ўсё: ад курэй да апошняга рушніка ў куфары. Часам, секвестатараў збівалі, а калі тым на дапамогу прыходзілі паліцыянты — збівалі і іх. І тады паўтараўся «алекшыцкі сцэнар»: армія з 200 паліцыянтаў, якая ішла па вакольных вёсках, «зачышчаючы» тэрыторыю.

Варта дадаць, што супраць арыштаваных, як правіла, ужываліся катаванні. Захаваліся ўспаміны Леаніда Салаўя пра лёс ягонага брата, якому ламалі пальцы, заціскаючы ў дзвярах. Было і па-іншаму: звязвалі рукі з нагамі, выгінаючы чалавека ў дугу, клалі на стол, а пасля... спіхвалі, чалавек падаў: і так некалькі разоў. У выпадку пацыфікацыяў («акцыяў замірэння») вайскова-палявыя суды мелі права вешаць арыштаваных, фактычна, беручы на сябе функцыі судовай сістэмы.

Калі ў сярэдзіне 1920-х гадоў КПЗБ яшчэ рыхтавалася да паўстання, збіраючы зброю ды арганізоўваючы падпольную сетку, на працягу наступных гадоў уся дзейнасць звялася наўпрост да агітацыі ды індывідуальнага тэрору, скіраванага на паліцыянтаў і правакатараў. Найбольш вядомым выпадкам, безумоўна, можна лічыць гісторыю Сяргея Прытыцкага, які страляў у правакатара непасрэдна ў зале суда, за што і быў пасля прысуджаны да смяротнага пакарання.

## КПЗБ — «тэрарысты», а Пілсудскі?..

Усё гэта вяло да няспыннай вендэты. Паліцыянты помсцілі за сваіх забітых таварышаў. «Капэзэбоўцы» ды наўпрост незадаволеная моладзь помсцілі за сваіх родных, братоў і сёстраў: зняволеных, збітых ды павешаных, якім дзяржава адмовіла ў натуральным праве самастойна вызначаць свой лёс на сваёй зямлі. Яны хацелі зменаў — і гатовыя былі заплаціць за гэта.

Сёння польскія гісторыкі кажуць, што мелася прайсці яшчэ 20 гадоў — і пытанне было б вырашана. Маўляў, у 1940-х гадах Польшча планавала правесці кампанію «Тварам да Крэсаў», якая б спрыяла паляпшэнню эканамічнай і сацыяльнай сітуацыі ў рэгіёне. Ці было б так насамрэч? Ці кранулася б гэта хоць неяк пытання нацыянальных правоў? Мы не ведаем. Вядома толькі, што ўжо напрыканцы 1930-х польскія службоўцы рапартавалі Варшаве, маўляў, пытанне з беларускім рухам вырашанае: раз і назаўсёды.

Калі ісці за падобнай логікай, то «капэзэбоўцы» адно шкодзілі ўрэгуляванню сітуацыі на «Крэсах» — гэта бандыты і злачынцы. Але Пілсудскі ў часы Расійскай імперыі займаўся «эксамі», і яго ніхто не лічыць бандытам? Чаму героямі трэба лічыць польскіх сацыялістаў, якія на пачатку XX стагоддзя займаліся тэрорам супраць царскіх чыноўнікаў? Калі на тое пайшло, то ўся гісторыя Польшчы XIX стагоддзя складаецца з інсургентаў, мяцежнікаў і тэрарыстаў, якіх сёння палякі шануюць як герояў.

Большасць хлопцаў, што ішлі ў КПЗБ, умелі пісаць і чытаць па-беларуску, запісваліся ў ТБШ, хоць дзяржава рабіла ўсё, каб гэтаму супрацьстаяць. Гэта былі дзеці вайны, якіх улады пазбавілі ўсялякіх магчымасцяў сацыяльна-эканамічнага росту і прафесійнага росту, якім нават вучыцца ў школе на сваёй мове было забаронена. Што ім заставалася? Вынікам падобнай дзяржаўнай палітыкі акурат і стала катастрофа 1939 года...

## Ці адказная КПЗБ за вендэту ў 1939-м?

На момант 1939 года КПЗБ была ўжо фактычна знішчанай арганізацыяй, да чаго, у першую чаргу, прыклаўся сам Сталін: за год да гэтага па ягоным загадзе партыя была распушчаная. Вядомыя выпадкі, калі паліцыянт у вёсцы выклікаў вядомых яму камсамольцаў і зачытваў савецкую ж газету з навіной пра роспуск КПЗБ. Паліцыянту, вядома, не верылі, але пасля ўсё аказвалася праўдай. Разам з тым, польскія гісторыкі выношваюць версію, маўляў, роспуск КПЗБ быў адно манеўрам ды «ўсыпленнем агентуры», але гэта выглядае ўжо цалкам фантастычна.

Без апісання і разумення ўсіх вышэйзгаданых рэалій, цяжка зразумець вендэту 1939 года, калі вяскоўцы займаліся самасудам над учорашнімі паліцыянтамі, асаднікамі ды «панамі». Тут жа хаваецца і разуменне 1941 года, калі шмат хто з тых, хто выратаваўся ў 1939-м, вярнуўся, каб помсціць ужо


Казімір Рагачэўскі — легендарны баявік КПЗБ з Зарубічаў пад Гродна. Загінуў у баі з польскай паліцыяй. Мясцовыя жыхары складалі пра яго песні

камуністам, уладкоўваючыся ў адміністрацыю ды паліцыю пад нямецкім крылом.

Сёння вельмі цяжка адрозніць, дзе самасудам у 1939-м займаліся «капэзэбоўцы» ды камсамольцы, а дзе — звычайны маргінэс, які ўсплывае ў кожны пераходны перыяд у гісторыі. І гэта не апраўданне КПЗБ, адно заклік да ўзважанага падыходу і асэнсавання неабходнасці ва ўсім разабрацца, перад тым, як навешваць ярлыкі. Трэба таксама памятаць, што «капэзэбоўцы» служылі і ў польскім войску, таму абаранялі межы Польшчы разам з іншымі ў верасні 1939-га.

## Прытыцкаму пашчасціла, а што з рэштай?

Які лёс чакаў «капэзэбоўцаў» у далейшым? Па логіцы, яны меліся стаць новай элітай Заходняй Беларусі, але па факце неверагодны кар'ерны рост атрымаўся адно ў Сяргея Прытыцкага, які стаў старшынёй Вярхоўнага Савету БССР. Пры гэтым, Прытыцкі да вайны быў актывістам сярэдняга звяна, ягоная легенда заснаваная найперш на тым самым «атэнтаце» ў судзе ды ўжо пазнейшай вайсковай біяграфіі.

Цікавая гісторыя Мікалая Арэхвы, які да вайны быў сябрам ЦК КПЗБ ды перажыў тое ліхалецце, але стаў усяго толькі... старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі партыі ды аўтарам шмат разоў цэнзураванай кнігі па гісторыі камуністычнага падполля ў Заходняй Беларусі. Яўрэі з КПЗБ збольшага атрымалі дробныя адміністратыўныя пасады. Напрыклад, сакратар гродзенскай ячэйкі партыі Лазар Шайкоўскі, які адседзеў з дзясятак гадоў у польскай турме, стаў «ажно» дырэктарам заапарку.

Кар'ернай столлю для беларускіх дзеячаў КПЗБ сталі пасады старшыняў раёнаў (Царук, Жалезняковіч). І тое, найхутчэй, тут была залічаная не гісторыя даваеннай барацьбы, але кіраванне партызанскімі атрадамі ўжо падчас нямецкай акупацыі.

## Гісторыя яшчэ не напісаная

У БССР стала магчымым голасна казаць пра КПЗБ адно пасля 1956 года і сыходу культу асобы Сталіна, які, уласна, і знішчыў партыю. У 1960–1970-х быў выдадзены цэлы шэраг «глянцавых» кніжак па тэме, якія, праўда, не змяшчаюць ключыкаў да гісторыі КПЗБ, але ўсяго толькі ўпісваюць гісторыю яе чальцоў у агульную канцэпцыю «барацьбы народных масаў за камунізм». У гэтых выданнях няма месца рэальнай гісторыі з інтрыгамі, падманам, гераізмам і сляпой верай, затое поўна прапаганды і пафасу. Верагодна, сапраўдная гісторыя КПЗБ яшчэ мае быць напісаная, але ўжо не з савецкіх ці польскіх пазіцыяў, але з нацыянальных — беларускіх.

Напрыканцы варта спыніцца на некалькіх фразах Мікалая Арэхвы, агучаных ім ужо ў канцы жыцця. На пытанне журналісткі: «Чаму вы рабілі ўсё гэта, ведаючы пра сапраўдныя намеры Сталіна?», Арэхва адказаў: «Мы не маглі інакш, мы былі камуністамі». Адказ на яшчэ адно важнае пытанне мы ведаем ужо праз дачку Арэхвы, калі той адышоў у лепшы свет. Калі ў яе спыталіся, як бацька паставіўся да пачатку развалу Савецкага Саюзу, дачка адказала: «З поўным разуменнем».

# Складаная гульня па пошуку сюжэту

Яўгенія ЧАРАПАВІЦКАЯ

**Кніга Яніны Пінчук «Горад мрой» нясе ў сабе настроі і спробы аўтара-пачаткоўца. Адназначна сказаць, пра што гэтая кніга, даволі цяжка.**

У творы выразная толькі тэма кахання, прычым кахання нясталай дзяўчыны да чалавека, які ўжо адбыўся ў жыцці. Але гэта становіцца відавочным, толькі калі чытач адолее палову кнігі, бо дагэтуль ён хіба што шукае адказы на апісваемыя падзеі.

Калі ісці ад пачатку, дык першыя думкі наводзяць на тое, што дзяўчына-студэнтка стварыла ў сябе ў галаве асаблівы свет і жыве ў ім, спалучаючы з ім жыццё ў непасрэднай рэальнасці. Гэты свет, на першы погляд, існуе толькі ў фантазіі гераіні, ён створаны таму, што тая рэальнасць сучаснага Мінска, у якой жыве дзяўчына, зусім яе не прываблівае. Яна жыве іншымі катэгорыямі, іншымі ўяўленнямі, усё пераносіць на тую фантазійную прастору, якую стварыла — паўтаруся — у сваёй галаве. Але потым з'яўляецца спадар генерал, з якім дзяўчына вядзе нейкую асаблівую гульню, нешта звязвае яе з ім, але адразу не зразумела што.

Гераіня перыядычна бачыць генерала, ці бачыць падобных да яго, неяк таемна з ім сустракаецца. Напачатку гэта здавалася цікавым: «Ну з кім не бывае, хочацца неяк дамаляваць і прыўкрасіць сваё жыццё». Але справа аказалася не такой простай: апынулася, што гэта не проста фантазіі, а іншая — паралельная сучасная — рэальнасць. Сапраўды, такі паварот сюжэту. Але насамрэч можна з нацяжкай казаць, што ў кнізе ёсць нейкі сюжэт, які быў нечаканы і выплыў невядома адкуль.

Магчыма, зразумець усё мне, як чытачу, можа і не давялося, але ў мяне шмат пытанняў. На маю думку, гісторыя вельмі не раскрытая і скацілася ў адзін бок — несаспелага кахання, з замашкай на стварэнне нейкага сюррэалістычнага твора. Атрымалася, што паралельна сучаснай рэальнасці існуе іншая, і гэта рэальнасць — ВКЛ, якое дзейнічае па сённяшні дзень.

Сама магчымасць паразважаць пра тое, якім было б ВКЛ у XXI стагоддзі — гэта сапраўды цікава, але ў кнізе гэтага няма, ад ВКЛ там толькі назва. І ўвогуле, незразумела, чаму гэта рэальнасць існуе, чаму менавіта гераіні кнігі ў яе трапляюць, незразумела, паводле якіх прынцыпаў функцыянуе гэтая рэальнасць, чаму яна мае выхад на людзей, што жывуць у сучасным Мінску, як адбываецца пераход у гэту рэальнасць, у які момант адкрываецца магчымасць у яе трапіць. Ці яна заўсёды адчыненая? Хто ўвогуле можа туды трапляць? І, нарэшце, — які сэнс гэтай рэальнасці? Узнікае ўражанне, што яна была проста створаная як модная фішка, а не як неабходнасць для раскрыцця сюжэту.




Усе дзяўчыны, пра якіх ідзе аповед у кнізе, могуць трапляць у паралельнае ВКЛ, і больш за тое, могуць браць з сабой каго-небудзь. Усе дзяўчыны з'яўляюцца свайго кшталту варажбіткамі, але ў кнізе заняткі гэтых дзяўчат у паралельным ВКЛ называюцца проста спецыялізацыяй (іх і завуць «спецыялісты»). У чым канкрэтна заключаюцца справы дзяўчат — невядома. Ну, працуюць яны ў міністэрствах, робяць важныя справы, выконваюць заданні, кахаюць міністраў ды генералаў — гэта ўсё, што можна сказаць пра іх працу. У «паралельнае ВКЛ» закінуты міністр з былога СССР, генерал з Лацінскай Амерыкі — і таксама не зразумела, чаму яны там, што робяць.

Усё вельмі размыта. Таму стварaецца ўражанне, што нешта хацелася сказаць, але хацелася пра адно, а атрымалася зусім пра іншае. Увогуле, пасля прачытання застаецца нейкі туман, набор карцінак, якія ў адно сабраць цяжка.

Што мне вельмі спадабалася ў кнізе — гэта пасыл на погляд унутр самога сябе. І гэта не рацыянальнае самакапанне, а пасыл на адчуванне, на тое, каб адкінуць усё і сапраўды зразумець, хто ты, як ты ўпісваешся ў сваё наваколле, як ты сябе ў ім адчуваеш, што ты хочаш ад яго, якіх зменаў хочацца ад самога сябе. Гэта вельмі падабаецца, і гэта вельмі істотна. Бо важна не толькі ўспрымаць усё рацыянальна, але і даверыцца сваім адчуванням і ісці за імі, умець у іх разбірацца. Такі пасыл вельмі імпануе, і гэта тое, што «прабірае», тое, на што чытач звяртае ўвагу, тое, што застаецца з чытачом на доўгі час, што не забываецца.

Ёсць у кнізе два прыемныя для мяне апісанні, якія трошкі ахінулі беларускай культурай. Першае — гэта паляванне з міністрам: прачуліся настроі беларускай шляхты. І другое — святкаванне Купалля, вельмі моцны адсыл да беларускай самасці, да традыцыйных язычніцкіх святкаванняў, да простай, шчырай, улюбёнай у жыццё беларускай душы.

І гэта «прабірала», нешта прачнулася ўнутры, навеяла прыемнасць і спакой. Дзякуючы гэтаму я, калі пабачу іншую кнігу Яніны, абавязкова адкрыю пачытаць з надзеяй, што ў ёй знайду падобныя адчуванні з большай сілай уздзеяння.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №311

Падпісана да друку 30.03.2018. 8.00. Наклад 2500 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.